25 сакавіка заканчваецца падпіска на «Народную Волю» на II квартал. Не спазніцеся!

№№45–46
(3584–3585)

20 сакавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БОЛЬ

## Семен БУКЧИН
# После казни

Ну вот и все...

Коновалова и Ковалева расстреляли.

Теперь мы все должны спать спокойно. Справедливость восторжествовала. Убийцы-террористы наказаны.

Чего же еще?

Но отчего так бурлит интернет?

Отчего сотни, уже тысячи откликов наполнены горечью по поводу гибели двух молодых людей и проклятиями по адресу приговорившей их к смерти власти?

Отчего находятся люди, несущие цветы к памятному месту на станции метро "Октябрьская" и ставящие фотографии расстрелянных рядом с мемориальной доской в память о погибших 11 апреля минувшего года?

Отчего память о жертвах взрыва в метро объединяется со скорбью по двум парням, которых власть сочла виновными в этой трагедии и расстреляла?

Если верить милиции, тащившей в отделение граждан, пришедших с цветами к месту прошлогодней трагедии, это "плохие, несознательные граждане", потому что "правильные" граждане не могут выражать сочувствия убийцам-террористам.

Естественно, "неправильные" граждане — это и те, кто возмущается в интернете расстрелом Коновалова и Ковалева, кто приходит со словами сочувствия к их родным, кто уставил цветами весь подъезд в витебском доме Ковалева.

А сколько их еще, этих "неправильных" граждан в нашей Беларуси, которые думают точно так же, как и те, кто пишет в интернете, кто пришел с цветами к станции "Октябрьская", кто скорбит вместе с родственниками и погибших от взрыва и расстрелянных?

Десятки, сотни тысяч?

Они **так** думают. Но их голоса не слышны. Их мнением власть не интересуется. Власти, ее телевидению, ее газетам интересны только "правильные" мнения.

Ясное дело, что референдум в случае Коновалова и Ковалева не предусмотрен. Тут все, как всегда, предоставлено одному вершителю судеб.

А почему бы все-таки власти не прислушаться к голосу всего общества, а не только той части, которую государственное телевидение отлавливает на улицах и записывает "дозволенные речи"?

Но это было бы возможно, если бы власть ощущала силу общественной солидарности. А ее нет, потому что не сложилась нация. Во всяком случае, в таком виде, чтобы чувствовалось ее присутствие, ее дыхание, слышен был ее голос.

И все-таки у этой части "отсутствующей" нации, которую не желает слышать власть, есть свои представители, свои адвокаты. Их можно найти в интернете, хотя их голосам нередко трудно там пробиться среди потока разнообразного мусора. Они томятся в СИЗО и колониях.

И, конечно, ярчайший сегодня символ стойкости человеческого духа — Сергей Коваленко. Человек умирает за ФЛАГ. А по сути — за свою национальную честь.

"Меня может спасти только народ", — говорит Сергей Коваленко.

Это абсолютно правильные слова. С большим смыслом сказанные. С вызовом и призывом к активности.

Какой же народ может спасти Коваленко? Где он, этот народ?

Можно ли представить себе, что в Польше, Чехии, Литве умирает в тюрьме молодой человек, показавший пример, как нужно дорожить исторической национальной святыней, а его сверстники спокойно ходят себе на учебу в университеты и школы? Их это не касается...

Вот вам еще один ответ на вопрос, есть ли у нас нация. Конечно, ни в Польше, ни в Литве само подобное преследование молодого человека сегодня непредставимо. Но и молчание молодежи — и не только молодежи, всего общества — еще в большей степени непредставимо.

У чехов был юноша, студент Ян Палах. Облившись бензином, он сжег себя в январе 1969 года в знак протеста против советского военного вторжения в Чехословакию.

Сергей Коваленко — белорусский Ян Палах. Увы, к зажженному им костру сегодня массово не идут его ровесники. Но в нашем сыром, равнодушном обществе, верном принципу "моя хата с краю", есть еще, слава Богу, люди с совестью, с душой.

Им трудно молчать. Они пытаются излить свою боль, свои гражданские, национальные чувства в интернете, в негосударственной прессе, они идут с цветами на станцию "Октябрьская".

Трагедия, случившаяся здесь 11 апреля 2011 года, объединилась в сознании многих людей с трагедией расстрелянных Коновалова и Ковалева, с трагедией всей нынешней белорусской жизни. Злой. Нищей. Несправедливой. Бесправной. Грозящей каждому имеющему собственное человеческое, гражданское достоинство унижением, тюрьмой, а возможно, и гибелью. Никто не может чувствовать себя в безопасности в этой стране. Вы можете сесть в поезд — вас снимут без объяснений. Вы захотите организовать профсоюз — вам не дадут. Вы будете бороться за справедливость — вас уволят, вас будут травить, будут запугивать вашу семью.

Потому-то и расстрел Коновалова и Ковалева воспринимается немалой частью общества не как борьба с терроризмом, а прежде всего как запугивание все тех же несогласных, как сигнал им: сидите тихо, вы ведь видите — мы все можем.

Власть не смогла ответить на вопрос, как это в тихой, спокойной, сверхтолерантной Беларуси вдруг зародились два рабочих паренька, которым до смерти захотелось убивать своих сограждан. Проще всего было бы объяснить — они вот такие, плохие изначально, с рождения, шишка, мол, такая у них на голове есть. Объяснить же социальную природу зла — значит вскрыть условия, в которых оно рождается. А на это власть не могла пойти. Потому что это означало пойти против самой себя. Как же это признать, что при такой хорошей власти рождаются такие монстры? Тем более что и на монстров эти парни не тянули... Массу неудобных и не получивших ответа вопросов породили и следствие, и суд. Поэтому лучше побыстрее к стенке, и дело с концом. Сама эта спешка с освященным государством убийством выглядела отвратительно.

Вот всё это и чувствуют люди, пишущие частью возмущенные, частью исполненные отчаяния комменты в интернете, идущие с цветами к метро "Октябрьская". И это не какая-то "несознательная, темная Беларусь". Это люди, глубоко и больно ощущающие трагизм нашей жизни.

Они чувствуют, что Зло, поселившееся в Беларуси, в последнее время приобрело какой-то ужасающий универсальный характер. Оно буквально разлито повсюду. А в судебной системе прежде всего.

Поэтому и получился такой "обратный эффект" с расстрелом Коновалова и Ковалева. В осуждении их казни слились голоса родственников погибших 11 апреля и очень многих совестливых, думающих, неравнодушных людей. Власть шкурой чувствует, что ситуация далеко не однозначная, как ей хотелось бы. Нет всенародного единодушного осуждения убийц. Но есть очевидное недоверие власти. Потому она и организует поспешно привычную и, как всегда, очень тупую промывку мозгов на телевидении и в госгазетах. Потому ей и кажется, что от букета цветов сейчас начнется революция. И вот уже дюжие бугаи бегут за принесшей цветы девушкой...

Страшно жить в этой стране, — пишут в интернете.

Но нужно жить. И оставаться людьми.

Будем делать это вместе.

## Амбасадары вяртаюцца?

Некаторыя СМІ паспяшаліся перадаць навіну пра тое, што паслы еўрапейскіх краін на гэтым тыдні вернуцца ў Мінск. Ці так гэта?

У прадстаўніцтве Еўрасаюза ў Мінску, аднак, тлумачаць: *"Пакуль няма ніякай інфармацыі на гэты конт. Нам вядома толькі тое, што стала вядома прэсе: вядуцца кансультацыі. Адзінае, што мы ведаем, — усе будуць прытрымлівацца адзінага і скаардынаванага падыходу да вяртання ўсіх паслоў Еўрасаюза".*

Раней абавязковай умовай вяртання паслоў краін ЕС у Мінск называлася вызваленне палітвязняў.

Нагадаем, што 28 лютага МЗС Беларусі прапанавала паслу ЕС Майры Мора і амбасадару Польшчы Лешаку Шарэпку *"выехаць у сталіцы сваіх краін на кансультацыі"*. Услед за імі з Беларусі з'ехалі ўсе астатнія паслы краін ЕС. Днямі з'явілася інфармацыя, што паслы павінны вярнуцца ў Мінск да 23 сакавіка — у гэты дзень Савет міністраў замежных спраў ЕС павінен разглядаць пашырэнне санкцый супраць беларускай улады.

Калі паслы ЕС сапраўды збіраюцца вярнуцца, то тлумачэнняў гэтаму няшмат: альбо Беларусь паабяцала вызваліць палітвязняў, альбо Еўропа ідзе на саступкі. Бліжэйшы час пакажа, якая версія правільная.

SOS!

## Сяргей КАВАЛЕНКА:
# «Адчуваю, што мне засталіся лічаныя дні...»

Апошнія навіны: віцебскаму актывісту КХП—БНФ Сяргею Каваленку, які быў асуджаны на 2 гады 1 месяц зняволення і які працягвае галадоўку, пачалі прымусова ставіць кропельніцы з глюкозай.

Учора жонка Сяргея — Алена Каваленка — сустракалася з начальнікам СІЗА, а таксама турэмнымі медыкамі. *"Начальнік СІЗА сказаў мне ў вочы, што Сяргея выводзяць з галадоўкі "добраахвотна-прымусова", медыкі мне паведамілі, што Сяргей можа быць пераведзены ў Рэспубліканскі клінічны псіхіятрычны шпіталь у Навінках у сувязі з доўгатэрміновай адмовай ад прыёму ежы. Хаця адзначу, што, прынамсі, 19 сакавіка гаворкі аб пераводзе мужа ў псіхдыспансер не ішло, ніякага рашэння дактароў на гэты конт не было",* — сказала жанчына "Народнай Волі".

Учора ж у другой палове дня Сяргея Каваленку наведаў ягоны брат Віталь. Відавочна, што родным дазваляюць часта сустракацца з вязнем толькі па адной прычыне: каб угаварылі Каваленку спыніць галадоўку і не даводзіць сябе да смерці. Вынік пакуль адмоўны.

— Ад галадоўкі ён адмаўляцца не збіраецца, па-ранейшаму называючы прысуд незаконным. Хаця стан Сяргея нават цяжкім нельга назваць, ён — крытычны. Раніцай тэмпература была 35,1 ціск — 80 на 50, — расказаў пасля спаткання Віталь. — Моцна баліць спіна, ныркі, ён ляжыць і ўжо амаль не ўстае. На спатканне з намі ён ледзь дайшоў... Сяргея не трымаюць у турэмным шпіталі, зараз ён знаходзіцца ў звычайнай камеры. Разам з ім сядзіць яшчэ адзін чалавек, брат не выключае, што гэта можа быць "падсадная качка".

Сяргей распавёў, што кропельніцы з лекамі яму ставяць прымусова (з аднаго боку, сапраўды, трэба неяк падсілкоўваць арганізм, але, з другога боку, ёсць такія лекі, пасля якіх лёгка трапіш у псіхушку, так што сітуацыя неадназначная). У мінулыя выхадныя да яго ў камеру прыходзілі супрацоўнікі СІЗА. Іх было восем чалавек. Яму прымусова, супраць яго волі ставілі кропельніцы. Якія лекі ўводзяць, Сяргей не ведае, але яму кажуць, што гэта глюкоза... Пасля кропельніц, па прызнанні брата, яму робіцца яшчэ горш.

На развітанне Сяргей шакіраваў мяне, сказаўшы літаральна наступнае: "Адчуваю, што мне засталіся лічаныя дні..."

Дарэчы, дабіцца спаткання з Сяргеем Каваленкам спрабаваў і экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Аляксандр Казулін, які мае досвед доўгай галадоўкі за кратамі. Але ў судзе Першамайскага раёна Віцебска Казуліну ў сустрэчы адмовілі, спаслаўшыся на тое, што ён не з'яўляецца блізкім сваяком Каваленкі.

А вось Алена Каваленка атрымала дазвол на чарговае спатканне з мужам. Плануецца, што яно пройдзе на гэтым тыдні.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АКЦЫЯ

## У Вільнюсе пачаўся Беларускі тыдзень

Яго мерапрыемствы прымеркаваны да ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Цырымонія адкрыцця Беларускага тыдня прайшла ў панядзелак у Цэнтры гарадскога самакіравання Вільнюса.

21 сакавіка ў літоўскім парламенце адбудзецца "круглы стол" па пытаннях беларуска-еўрапейскіх адносін. 23 сакавіка ў Цэнтральным архіве Літвы і навучальным корпусе Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта адкрыецца выстава "Невядомая БНР". Яе аснову складаюць раней невядомыя архіўныя матэрыялы Беларускай Народнай Рэспублікі. На 24 сакавіка запланаваны святочны канцэрт у гарадской ратушы.

Завершацца ўрачыстыя мерапрыемствы 25 сакавіка, у дзень абвяшчэння БНР. Удзельнікі Беларускага тыдня ўскладуць кветкі на магілы дзеячаў, якія падпісалі Акт пра незалежнасць БНР 1918 года. У гэты ж дзень адбудзецца святочны аўтапрабег па Вільнюсе пад бел-чырвона-белымі нацыянальнымі сцягамі.

### ТЫМ ЧАСАМ

Арганізатары акцыі, прымеркаванай да 25 сакавіка — Дня Волі, так і не атрымалі адказу ад гарадскіх улад на сваю заяўку аб правядзенні шэсця і мітынгу. Нагадаем, што папярэдне яго планавалася пачаць ля Акадэміі навук і закончыць на плошчы Бангалор. Аднак дазволу на мерапрыемства на ўчарашні дзень не было.

На афіцыйным узроўні ўгодкі абвяшчэння БНР як першай незалежнай беларускай дзяржавы ніяк не адзначаюцца.

ОФИЦИАЛЬНО

## Синица в руке или журавль в небе?

В понедельник в СМИ поступил текст президентского указа "О мерах по совершенствованию пенсионного обеспечения граждан". Какие нововведения им предусмотрены?

Глава государства узаконил ранее озвучивавшуюся идею увеличить пенсии тем людям, которые не будут оформлять пенсию в оговоренные законом сроки.

Так, предусмотрено, что если вы достигли пенсионного возраста, но государственную пенсию не оформляли и не получали, то размер пенсии по возрасту будет увеличиваться.

За первый год — на 6% заработка;

— за второй год — на 8%;

— за третий год — на 10%;

— за четвертый — на 12%.

— за пятый и каждый последующий год работы — на 14%.

Под работой без получения государственной пенсии, дающей право на увеличение пенсии в соответствии с настоящим подпунктом, понимаются периоды работы, предпринимательской, творческой и иной деятельности, в течение которых производилась уплата обязательных страховых взносов в Фонд социальной защиты населения, согласно законодательству о государственном социальном страховании.

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Как и за что закрыли «МММ-2011»?

## *Новорожденную глобальную кассу взаимопомощи "закопали" в Беларуси с помощью спецназа КГБ*




Корреспонденту "Народной Воли" в Бресте 15 марта предложили вступить в новую финансовую пирамиду "МММ-2011", и он клюнул на удочку, чтобы познакомиться изнутри с загадочным детищем Мавроди. Но уже на следующий день по ОНТ передали, что в Беларуси арестованы все офисы этой системы — в Минске, Гродно и Бресте. Не успев раскрыть свой творческий потенциал, она в городе над Бугом продержалась всего один день. Зато какой!

Повод был стоящий — открытие 15 марта в Бресте консультативного центра новой международной финансовой пирамиды "МММ-2011". При этом "МММ" расшифровывалось как "Мы Можем Многое". В тот день на центральной улице Советской обаятельные парни во всем черном и девушки в белом дарили прохожим алые и белые розы, раздавали проспекты-бюллетени. Не забывая пригласить на открытие центра, что в двух шагах, на ул.Островского,5/1.

### Их благословил Мавроди

А почему бы не узнать, как сейчас делают деньги? "Make money!" — так, кажется, говорят американцы. При этом почему-то вспомнилась дневниковая запись Толстого: "Лучше попробовать и испортить, чем ничего не делать". И я попробовал.

Я уже знал из интернета, что еще до этого создателя новой структуры глобальной кассы взаимопомощи, основателя финансовой пирамиды "МММ" Сергея Мавроди обвинили, что он с 1994-го по 1997 год обманул от 10 до 15 миллионов вкладчиков, что за это в 2007 году суд приговорил его к 4,5 года лишения свободы и почти весь срок он провел в знаменитом СИЗО "Матросская тишина".

Сейчас над ним снова нависли темные тучи. В прошлую среду мировой судья Хамовнического суда Москвы Ирина Демидова арестовала "злого гения" и назначила ему наказание в виде ареста на 5 суток. 56-летний Мавроди поплатился за неуплату административного штрафа всего в 1000 рублей! А всего в районном отделе судебных приставов сейчас находится 1893 исполнительных производства по отношению к главе "МММ".

...А в Бресте в это время девушки из "МММ" перерезали красную ленточку — и консультативный центр был открыт. При входе немногочисленных посетителей, корреспондентов независимых газет, радио и телевидения встретил (ба, знакомые все лица!) коллега по журналистскому цеху — 27-летний брестчанин **Алексей Солодун.** Энергичный и раскованный "тысячник", уже поднаторевший во многих нюансах финансовой виртуально-социальной сети.

В свое время он закончил факультет журналистики БГУ, работал на телевидении, затем корреспондентом нескольких газет. А потом стал одним из активных организаторов новой волны МММ в Беларуси.

Выяснилось, что приглашения от "МММ-2011", разосланные в государственные СМИ по электронной почте, проигнорировали представители "Зари", "Народнай трыбуны", "Брестского вестника".

### На чем держится «МММ-2011»?

На презентации консультативного центра в Бресте Алексей выглядел оптимистом и сказал буквально следующее:

— Назначение этого центра — информирование людей о том, что же такое "МММ-2011", как же все в нем устроено, почему здесь нет никаких гарантий, обещаний, но тем не менее более года все всем платится и нет ни одного заявления в милицию.

На нашем сайте (www.2011.by) записано, что это финансовая пирамида, где никто никому ничего не обещает, никто никому не должен и даже если вы выполняете все правила, вам все равно могут не вернуть ваши деньги.

Здесь участники скидываются в общую кассу свободными деньгами и берут их по мере необходимости, когда кому-то их не хватает. Тут есть некая социальная виртуальная общность, где была привязка денег к курсу доллара, а с сентября 2011 года применяется коэффициент к любой валюте. Эти курсы растут два раза в неделю — по вторникам и четвергам. Когда приходит новый участник, он покупает "мавро" (внутреннюю расчетную единицу в "МММ-2011"), а со временем курс денег растет, и он может продать часть своих денег по более высокой цене. Это и есть та финансовая помощь, которую он получает от системы взаимопомощи.

Первое отличие нашей пирамиды от прежней образца 1994 года — отсутствие ее "верхушки", юридического лица, банковского счета и хранилища денег. Все деньги распределены между участниками, на счетах которых они хранятся, поэтому их просто нельзя снять со счетов и скрыться. Из этих сумм и складывается огромный международный "общак", в котором сегодня участвует порядка 20 миллионов человек. Из них одна треть — это Россия, треть —Украина и остальное — на весь мир. География — от Таиланда и Китая до Швейцарии, Голландии и США. Недавно подключилась Польша.

Недавно принято решение — активно развивать "МММ" в Беларуси.



*(Окончание на 2-й стр.)*

## Астрыд Зам не пусцілі ў Беларусь

*Дырэктара Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёганэса Раў не пусцілі ў Беларусь.*

Нагадаем, што гэтая ўстанова была створана сумесна Беларуссю і Германіяй. Адпаведна кожны з бакоў мае ў яе кіраўніцтве свайго прадстаўніка. Але 18 сакавіка ў нацыянальным аэрапорце "Мінск" спадарыні Зам патлумачылі, што яна цяпер неўязная ў нашу краіну, хаця і мае візу. Астрыд Зам мусіла вылецець з Мінска ў Рыгу. У Беларусі Астрыд Зам мелася абмеркаваць пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай выставы па чарнобыльскай тэматыцы. Але не толькі магчымы зрыў выставы можа стаць наступствам "нявetлівасці" беларускага боку. Пад пытанне пастаўлена праца ўсяго Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Не запалохаць!

На мікашэвіцкім прадпрыемстве "Граніт" працягваюцца звальненні актывістаў, якія паспрабавалі стварыць пярвічную ячэйку незалежнага прафсаюза гарнякоў. Яшчэ не разгледжана ў судзе справа лідара ствараемай пярвічкі Алега Стахаевіча аб прызнанні звальнення незаконным, як з прадпрыемства звольнілі **Генадзя ПАЎЛОЎСКАГА.** Каб звольніць чалавека, які адпрацаваў больш за 20 гадоў, было дастаткова... позвы ў лунінецкую міліцыю. Паўлоўскага абвінавацілі ў прагуле: маўляў, згодна з позвай, ты вызваліўся пасля 12-й гадзіны; да Мікашэвіч каля 50 км — значыць, мог яшчэ, калі б пастараўся, патрапіць на працу. А не патрапіў — мы лічым, што прагуляў.

І гэта яшчэ не ўсё. Намесніка кіраўніка суполкі незалежнага прафсаюза **Мікалая КАРЫШАВА** выклікалі ў аддзел кадраў і паведамілі, што з ім не падоўжаць кантракт. Зноў знайшлася фармальная прычына — дысцыплінарныя спагнанні. За сем гадоў працы не было ніводнага, а тут за месяц адразу тры.

Сакратар ячэйкі **Анатоль ЛІТВІНКА** таксама адчуў на сабе ціск з боку адміністрацыі. Спачатку звольнілі з працы яго жонку Людмілу — не падоўжылі кантракт, а потым, як сам Анатоль кажа, калі ўбачылі, што на яго мера не паўздзейнічала, узяліся і за самога. Анатоль Літвінка працуе драбільшчыкам. Як не цяжка здагадацца, цяпер да яго зачасцілі розныя правяраючыя, шукаюць парушэнні...

**Алег СТАХАЕВІЧ** кажа: "Анатоль ужо напісаў тлумачальную наконт таго, чаму не прыбрана яго працоўнае месца. Але сам ён юрыст, усё абгрунтаваў як трэба. Дык прыехаў намеснік начальніка цэха (у выхадны дзень не паленаваўся!) і прымушаў перапісаць тлумачальную. Людзей запалохваюць, ціснуць з усіх бакоў. А не кожны ж можа адкрыта выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю. Яшчэ добра, што нам моцна дапамагае незалежны прафсаюз гарнякоў. Да афіцыйнага папросту няма сэнсу звяртацца. У нашай сітуацыі гэта нават смешна".

Безумоўна, цяжка незалежным прафсаюзам дапамагаць рабочым прадпрыемстваў, дзе нават няма пярвічнай арганізацыі. Лідара прафсаюза гарнякоў **Мікалая ЗІМІНА** толькі адзін раз пусцілі на сустрэчу з адміністрацыяй прадпрыемства.

І ўсё ж старшыня Кангрэса незалежных прафсаюзаў **Аляксандр ЯРАШУК** лічыць, што насамрэч сітуацыя на "Граніце" дае падставы для аптымізму.

— На "Граніце" зараз вырашаецца лёс краіны, як бы гэта пафасна ні гучала, — гаворыць Аляксандр Ярашук. — Гэта ж масавыя ўцёкі на волю! Рабочыя масава пачалі выходзіць з афіцыйнага прафсаюза і ствараць вольны, незалежны. Менавіта таму ўлады так і спалохаліся гэтага працэсу, бо сёння такіх сотні, а заўтра — тысячы. І мы маем рычагі ўнутранай і міжнароднай прафсаюзнай салідарнасці. Мы ведаем, што нам трэба рабіць для абароны суполкі "Граніта", і маем сваю стратэгію на гэты конт. Я не хачу і не магу ўсё агучваць, але сваіх людзей мы абаронім. І для рабочых вельмі важная такая падтрымка. 27 сакавіка адбудзецца суд па справе Алега Стахаевіча, у якім менавіта Кангрэс незалежных прафсаюзаў выступіць істцом.

Увогуле, гэта міф, што прадстаўнікоў незалежных прафсаюзаў далей прахадной не пускаюць. Нам даводзіцца даволі часта бываць на прадпрыемствах. Без праблем мы можам наведваць Мазырскі НПЗ, "Нафтан" у Наваполацку, "Беларуськалій" у Салігорску, прадпрыемствы ў Бабруйску... Рабочым гэта вельмі важна. Яны такім чынам адчуваюць падтрымку. Хаця не ўсё так гладка, канешне. Неяк я напісаў пра паводзіны дырэктара Мінскага аўтазавода, калі ён у цэху правёў пальцамі па станках, а потым бруд выцер аб кашулі начальнікаў цэхаў. Ён, калі даведаўся, то нават хацеў мяне запрасіць, каб паказаць, што не толькі можа рукі выціраць аб падначаленых, але і працаваць для завода. Ведаю, што Міністэрства прамысловасці яму гэтага не дазволіла. Відаць, сказалі: "Ты што, з глузду з'ехаў? Хочаш потым тлумачальныя па ўсіх інстанцыях пісаць?.."

Аляксандр Ярашук запэўніў, што за сітуацыяй на "Граніце" назіраюць замежныя партнёры Кангрэса незалежных прафсаюзаў. Для абароны інтарэсаў рабочых, якім перашкаджаюць стварыць пярвічную ячэйку, імі падрыхтаваны адпаведныя захады. Якія? Лідар прафсаюзнага руху паведаміў, што пра гэта стане вядома бліжэйшым часам.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Как и за что закрыли «МММ-2011»?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

## «Закрыть систему будет очень сложно для властей»

Тут требуется лирическое отступление. В дальнейшем, как показали последующие события, мысли Алексея носили утопический характер, как когда-то у Сен-Симона, Фурье, Оуэна. Но тогда он еще верил, что властям не под силу сломить "МММ" в его сегодняшнем виде.

— Изучая мировую финансовую систему, я много думал о Беларуси и пересмотрел свои взгляды на нее и понял, откуда тут кризисные явления. Правительство Беларуси — не причина, а заложник этих явлений. Прогнозные показатели, рост доходов, снижение инфляции в принципе достижимы, но только с помощью "МММ". Наша задача — снижение социальной напряженности. Потому что когда у человека есть все, что он хочет, он не живет от зарплаты до зарплаты, а снимает со своего счета только столько, сколько ему необходимо сейчас потратить. В результате этого возрастает денежный и товарный оборот, деньги сразу возвращаются в банковскую систему, позволяя снизить денежную эмиссию и инфляцию и в целом оздоровить экономику. Потерявшие могут быть только при таком раскладе, когда некая внешняя сила разрушит эту систему. Однако на сегодняшний день были учтены все слабые места "МММ-94", поэтому разрушить пирамиду будет очень сложно для властей. Эту систему могут разрушить только ее участники, когда начнут ее раскачивать, как лодку. Скажем, начнут все вместе забирать свои вклады. Естественно, это все падет, как любой банк или страховая компания.

С точки зрения законодательства любой страны мира тут нет нарушений, потому что ни в одном законе нет запрета давать в долг другу деньги или брать их в долг. Дело в том, что мы без всяких обещаний, гарантий и обязательств даем друг другу деньги.

Собираемся собрать 17 марта в Минске общее собрание участников "МММ-2011", где планируем выработать единую линию поведения, потому что есть определенные недочеты в управлении. Ожидается 500 участников собрания.

## Держать и не пущать!

Надо же такому случиться, чтобы в день открытия офиса в Бресте, 15 марта, по ОНТ начали пугать обывателей пирамидой "МММ-2011". Выступающие из Нацбанка, налоговой инспекции и МВД увидели в ней опасность для общества и пообещали разобраться со структурой, не имеющей ни устава, ни юридического статуса.

В голову пришла такая мысль. Государство в лице фискальных органов привыкло только держать и не пущать, а тут вроде как и подступиться не к чему. "МММ" предоставляет каждому участнику при его регистрации (паспорт, телефон, E-mail) бонус в 20 баксов, которые тут же заносятся в компьютер на его личный счет. То есть МММ дает, а не забирает деньги, которые, согласно правилам, можно было снимать не ранее, чем через две недели. Или оставлять для пополнения на классическом вкладе с 20%-ной прибавкой в месяц! Или класть на обычный или сверхдоходный депозит, где проценты доходят до 45—75% в месяц! Но тогда эти деньги нельзя снимать со счетов 3, 6 и 12 месяцев.

Мне было непонятно, как наращивается первоначальный капитал вкладчиков. Оказывается, прибыль берется из вкладов других участников, а "МММ-2011" выступает как пылесос — втягивает в себя денежную массу и дает к ней неограниченный доступ всем ее участникам.

При этом эти молодые интересные ребята предупреждают: "Участие в "МММ-2011" не гарантирует вам возврата переданных денежных средств. Вы отдаете деньги просто так незнакомым людям, без всяких обещаний и обязательств". Но мы-то знаем, что "просто так" ничего не бывает.

## Недолго музыка играла...

Уже в пятницу, 16 марта, государство решило не играть в прятки с новой волной "МММ" и перешло в атаку. По ОНТ передали: "Сегодня по всей Беларуси арестованы офисы "МММ-2011". Как выяснилось, в финансовую пирамиду оказались втянуты несколько тысяч наших сограждан. А сколько еще могли пострадать от махинаций, которые в 90-х годах на людях уже опробовал известный Сергей Мавроди?" Далее в репортаже Сергея Замковича для убедительности показали одного студента, который вложил 50 баксов в новую структуру, а сейчас, не надеясь на прибыль, хочет вернуть те деньги, которые "по срокам должен был через пару дней забрать".

В свою очередь его куратор Антон, которому студент через банк передал деньги, пояснил корреспонденту по телефону, что, согласно правилам, сейчас в режиме "Спокойствие" все операции по выплате денег приостанавливаются. Но при этом корреспондент не пояснил, что такой режим, как сказал организатор "МММ" в Бресте Алексей, введен в связи с арестом в Москве Сергея Мавроди.

Потом показали "знакомство" консультантов центрального офиса "МММ" в Минске со спецназом КГБ. Оно походило на захват подпольного террористического центра или наркобаронов. Но тут против двух безоружных молодых консультантов, которые не оказывали никакого сопротивления и ничего не прятали, бросили вооруженное подразделение — с оружием наперевес, в масках и бронежилетах: "Стоять! Руки вверх!". Консультанты Кирилл и Сергей, конечно, не могли дать никаких гарантий по возврату вкладов. Это и "чайнику" понятно — так записано в правилах "МММ-2011": "Участие... не гарантирует Вам возврата переданных средств". Как заявил "сотник" Сергей, "все построено на доверии".

В репортаже по ОНТ говорилось, что деятельность "МММ" в Беларуси ведется без регистрации, что эта пирамида предназначена вводить людей в заблуждение, втянула в свои сети несколько тысяч человек, поэтому она незаконная. А ее доход превысил 500 млн рублей. Сейчас на имущество, счета и оргтехнику "МММ-2011" наложен арест, ведутся следственные действия.

На Белорусском телевидении день ото дня нагнетали обстановку. 17 марта передали: "Руководство КГБ РБ возбудило уголовное дело в отношении организаторов пирамиды — за незаконную предпринимательскую деятельность.

## «МММ» как кость в горле банков и налоговиков?

Причина ареста, а значит, и приостановки деятельности, кажется, кроется не в формальностях типа "не зарегистрированы", "нет устава". Она — в том, что банковская и налоговая системы ополчились на "МММ-2011", почувствовав в глобальной кассе взаимопомощи серьезного конкурента, реальную угрозу своим интересам. Мол, новая система вкладов и выплат с их высочайшими процентами (шутка ли — 360% годовых!) может отобрать у банков львиную долю клиентов, которые поверят новобранцам виртуальной социальной сети больше, чем банкирам с 10-миллионными зарплатами. Не это ли первый звонок, что банкам нужно раскошелиться и поделиться частью прибыли с народом, намного повысив по вкладам населения свои проценты годовых? И кто знает, не спрячется ли обратно в бутылку тот предприимчивый джинн "МММ", чтобы уже в условиях подполья продолжить начатое в Беларуси?

## Мы рады обманываться!

Удивляет такой момент. Чиновники и телевизионщики только и говорят, что этого не может быть, потому что не может быть никогда! Но при этом у государства почему-то всегда не хватает денег на самое необходимое — на капитальный ремонт жилых домов, благоустройство дворов, газификацию сел, повышение зарплаты работникам бюджетной сферы, достойные пенсии и даже на замену лампочек в подъездах. А заклейменное государством "МММ-2011" самодостаточно и ни в чем не нуждается!

Этот феномен существует на уровне подсознательного, когда люди хотят быстро обогатиться? Как сказал один остряк, быть честным хочется, но меньше, чем богатым.

Конечно, даже при идеальном раскладе финал все-таки будет. Мой сосед по двору так и сказал: "Даже если "МММ" охватит весь земной шар, все равно вкладчики, которые окажутся в конце этой цепочки, будут обманутыми, потому что новые вкладчики закончатся". Согласен. Но пока охват всей планеты приостановлен захватом "МММ" в Беларуси.

## Вместо послесловия

После того как в брестском офисе "МММ-2011" 16 марта прошла презентация и консультант Алексей Солодун и его коллеги-десятники распили бокалы с шампанским, их посетили местные чекисты. Они провели там обыск и опросили Алексея, "откуда ноги растут".

После трехчасового опроса его отпустили, но на следующий день задержали и по заданию из Минска этапировали в столицу — в СИЗО КГБ, где продолжатся следственные действия.

**В пресс-релизах, распространенных 16—17 марта с.г. Центром информации и общественных связей КГБ Республики Беларусь, говорится:**

"В рамках работы по обеспечению экономической безопасности государства и пресечению преступлений, направленных на ущемление законных прав и интересов граждан Республики Беларусь, Комитетом государственной безопасности выявлена и пресечена незаконная деятельность на территории республики финансовой пирамиды "МММ-2011".

В ходе проведения оперативно-розыскных мероприятий установлена причастность группы лиц к осуществлению незаконных финансовых операций и завладению денежными средствами белорусских граждан путем обмана. В частности, указанные лица от имени незарегистрированной в налоговых органах и органах местной исполнительной власти организации "МММ-2011" осуществляли на территории Республики Беларусь деятельность по приему вкладов и ставок на выигрыш от населения, сопряженную с получением дохода в особо крупном размере. Выплата процентов по вкладам либо возврат вложенных денежных средств с учетом оговоренного вознаграждения (выигрыша) осуществлялись членами группы за счет привлечения новых вкладов (ставок) граждан, преднамеренно вводимых в заблуждение относительно законности и экономической целесообразности совершения подобных операций...

***С целью систематического получения прибыли указанными лицами были привлечены денежные средства граждан Республики Беларусь, внесенные в белорусских рублях и иностранной валюте на открытые участниками организованной группы расчетные счета в белорусских банках на условиях возможного обогащения вкладчиков от данных операций. В ходе проведенных обысков изъяты банковские кредитные пластиковые карточки, на счетах которых находилось более 800 млн белорусских рублей.***

***В настоящее время Комитетом государственной безопасности Республики Беларусь в рамках проведения доследственных действий задержаны лица, причастные к деятельности финансовой пирамиды, наложен арест на банковские счета, компьютеры и офисную технику. Проводятся мероприятия по вскрытию преступных финансовых схем. Организовано взаимодействие с правоохранительными органами и спецслужбами стран СНГ, с территории которых указанными лицами осуществлялась противоправная деятельность в отношении белорусских граждан. Проводится комплекс оперативно-розыскных мероприятий и следственных действий, направленных на раскрытие незаконных финансовых схем и установление иных причастных к их реализации лиц. Задержанные водворены в следственный изолятор КГБ.***

Комитет государственной безопасности предупреждает жителей республики, что финансовые схемы, реализуемые "МММ-2011", направлены на противоправное завладение денежными средствами граждан Республики Беларусь, в том числе с применением новых технологий в области информатизации и психологии.

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

*Брест.*

ПАДЛІЧЫЛІ

# *У якіх беларускіх гарадах зарплата вышэй за мінскую?*

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў інфармацыю аб сацыяльна-эканамічным развіцці рэгіёнаў Беларусі ў студзені—лютым 2012 года. Па ўзроўні заработнай платы Мінск у гэтым годзе па-ранейшаму з адрывам апераджае іншыя абласныя цэнтры. Аднак узровень зарплаты ў сталіцы не самы высокі ў краіне.

Паводле інфармацыі Белстата, намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў Мінску ў студзені—лютым склала 3 мільёны 654 тысячы рублёў.

У той час як

— у Жодзіне — 3 мільёны 667 тысяч,

— у Наваполацку — 3 мільёны 863 тысячы,

— у Салігорску — 7 мільёнаў 272 тысячы.

Дарэчы, сярод абласных цэнтраў самыя нізкія заробкі — у Віцебску. Тут сярэдняя зарплата дацягнула толькі да 2 мільёнаў 707 тысяч рублёў.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

# *Кожны трэці зароблены долар Беларусь аддасць за даўгі*

Нацыянальны банк Беларусі ацэньвае выплаты на абслугоўванне валавога знешняга доўгу ў 2012 годзе ў суму 18 мільярдаў 917 мільёнаў долараў. Гэта складзе 34,6% валавога ўнутранага прадукту. Іншымі словамі, трэцюю частку таго, што будзе зроблена і зароблена ў краіне. Такім чынам, сума абслугоўвання валавога знешняга доўгу ў 2012 годзе вырасце ў параўнанні з 2011 годам у 3 разы.

Валавы знешні доўг Беларусі на 1 студзеня 2012 года — 34 мільярды 284 мільёны долараў. Калі пералічыць на душу насельніцтва, то кожны беларус — і стары, і малы — на 1 студзеня запазычыў свету 3595 долараў.

ПАЛІТКУХНЯ

# *Старшынёй БСДП (Грамада) абрана Ірына Вештард*



Чарговы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) прайшоў у мінулыя выхадныя без сенсацый — аднагалосна і на безальтэрнатыўнай аснове Ірына Вештард была абрана кіраўніком партыі.

Арганізатары з'езда не хавалі, што ён носіць пераважна тэхнічны характар — партыя павінна мець легітымнае кіраўніцтва, прызнанае Міністэрствам юстыцыі. На думку аднаго з заснавальнікаў БСДП (Грамада) Алега Трусава, партыя выканала ўсе бюракратычныя патрабаванні ўлады.

— Калі кіраўніцтва будзе прызнана, тады можна вырашаць любыя іншыя праблемы. Таму мы спецыяльна ніякіх заяў не прымалі. Галоўнае — захаваць партыю. Пытанняў шмат, і я думаю, калі прызнанне будзе, тады правядзём нечарговы з'езд, і трэба пытанне выбараў вырашаць, у гэтым годзе выбары, і шмат іншых. Але пакуль у нас няма легітымнага кіраўніцтва, то які сэнс пра гэта казаць? Я вельмі рады, што ўся Беларусь прадстаўлена, партыя жывая, рэальная.

Нагадаем, Ірына Вештард ужо была абрана старшынёй партыі на з'ездзе ў Мінску ў чэрвені 2011 года. Але Мінюст на падставе канфлікту паміж былым кіраўніком партыі Анатолем Ляўковічам і большасцю сябраў партыі не прызнаў вынікі гэтага з'езда легітымнымі.

## ТЫМ ЧАСАМ

"Гэты з'езд расколе партыю да канца", — заявіў прызнаны Міністэрствам юстыцыі партыйны лідар Анатоль Ляўковіч:

— 18 сакавіка — гэта трэці раскол партыі, — гаворыць Ляўковіч. — Я зрабіў адмысловую заяву і распаўсюдзіў яе. Першы раскол партыі быў арганізаваны Алегам Трусавым. Была створана яшчэ адна Грамада на чале са Станіславам Шушкевічам. Другі раскол партыі адбыўся ў 2004 годзе. Яны адкалолі ад партыі трэць сябраў. І вось трэці раскол...

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# Отдать деньги — отдать власть

В общественной жизни Беларуси произошли два заметных события. Это публичное высказывание руководителя Совета Республики Национального собрания академика А.Рубинова о необходимости срочного перехода экономики страны на российский рубль с целью скорейшего решения всех интеграционных проблем и введение в обращение новой банкноты Нацбанка достоинством 200.000 белорусских рублей. Так или иначе, но оба события касаются денежно-кредитной сферы и, если поразмышлять философски, являют собой единство противоречий белорусских властей.

Затрагиваемая тема имеет свою предысторию. Страстное желание избавиться от национальной денежной единицы нескрываемо демонстрировал еще первый премьер самостоятельной Республики Беларусь В.Кебич. Понятно, что лечить слабого и больного белорусского "зайчика" было хлопотно и требовало больших профессиональных усилий. Инфляция в 1993 году доходила до 30 и более процентов в месяц. Проще было "зайчика" прикончить. Очень хотелось распрощаться с собственной валютой и экс-главе Нацбанка П.Прокоповичу. Официальные лица Союзного государства Беларуси и России в свое время доводили до общественности, что с 1 января 2005 года на нашей территории вводится российский рубль, а потом, с 1 января 2008 года, — единая валюта (всегда считал ее мифической). Тогдашние главы центробанков России и Беларуси неоднократно заявляли, что все технические вопросы о переходе на российский рубль уже решены, что дело только за политической волей руководителей государств. Порою создавалось впечатление, что руководству Беларуси совсем не надо проводить собственную денежно-кредитную политику, иметь самостоятельную банковскую систему, свои золотовалютные резервы, осуществлять государственную бюджетно-финансовую политику, вести переговоры с МВФ и Всемирным банком и т.д. Казалось, наши вожди совсем забыли о том, что национальная валюта — это важнейший атрибут государственности.

Все это происходило, видимо, потому, что долгое время белорусские власти не видели будущего у своей валюты, она у Нацбанка оставалась Золушкой. К большому количеству нулей на наших деньгах люди уже привыкли. Белорусская денежная линейка — количество купюр различного номинала — одна из самых длинных. С выпуском в обращение 200-тысячной банкноты будет 12 номиналов. Правда, глава Нацбанка обещала постепенно выводить давно ставшие бесполезными банкноты в 10, 20 и более рублей. Да и номиналы в 1000 и 5000 рублей (так заботливо защищенные ныряющей металлической полосой от фальшивомонетчиков) уже руки не греют. Греются только руки кассиров, которым приходится пересчитывать банкноты любого достоинства. Покупательная способность белорусского рубля в прямом смысле никакая. У нас давно исчезла из оборота банкнота нарицательной стоимостью 1 рубль. У россиян есть банкнота 1 российский рубль, у литовцев есть 1 лит, у украинцев — 1 гривна. У белорусов — нет. Это разве не символично? Наша наличная денежная система крайне трудоемка для пользования, дискомфортна. И что с ней будет дальше? Появится денежка в 500.000 белорусских рублей, потом в 1.000.000 рублей. Потом очередная деноминация с "зачеркиванием" нескольких нулей? Это мы уже проходили. Так наша денежная система и ходит много лет по кругу и ждет своей кончины в виде замещения, как ни печально, российской.

Напомним еще свежие высказывания российского посла Александра Сурикова: мол, еще один такой валютный кризис, какой белорусская экономика пережила в прошлом году, и ее переход на российский рубль станет неизбежным. В 1993 году и несколько позднее, когда белорусское руководство просилось в зону российского рубля, российские денежные власти отказали. Их не устраивало многое. Гиперинфляционность белорусской денежной единицы, финансирование неприемлемого дефицита белорусского бюджета необеспеченными деньгами, бюджетная политика и т.д. Вероятно, с политической точки зрения российское руководство тогда дало маху. Сегодня российские власти устраивает все. И наша инфляция, и девальвация. Нас уже готовы принять в зону российского рубля в любое время без всяких условий. Причем обещают любые коврижки: что российский рубль является валютой более стабильной (факт!), что упростятся взаиморасчеты государств и их предприятий (особенно скупка российским капиталом белорусских активов), что выше будут зарплаты (показательное резкое повышение зарплат сотрудникам проданного "Белтрансгаза") и т.п. Получается так: тем белорусам, кто хочет сладкой жизни, кто смотрит на мир через котлету, не надо долго думать — идите под крыло России.

Вспоминаются некоторые высказывания главы Беларуси А.Лукашенко. В свое время, когда инфляция в экономике была в пределах 10%, он заявлял, что белорусский рубль превратился в финансовый инструмент, с которым население чувствует себя весьма комфортно, что нам не нужна чужая валюта, чтобы за зарплатой в Кремль ездить. Резонно. Действительно, какие экономические рычаги останутся у белорусских властей после перехода на российский рубль? Эмиссионный центр — в Москве, белорусский бюджет, следовательно, будет согласовываться и утверждаться в Москве, налоги и налоговая политика — в Москве. Следовательно, нужно будет перейти на российское хозяйственное законодательство. Заметим, что объем белорусского ВВП составляет лишь 3% ВВП России, о чем лишний раз не преминул сказать В.Путин. При таком раскладе чем и кем вообще будет командовать президент Республики Беларусь? Льготы и преференции не раздашь. Российских олигархов к порядку не приведешь. Зарплаты не назначишь. Деньги — и те не подпечатаешь. Переход на российский рубль — это будет интеграция с Россией или инкорпорация в Россию?

Нацбанку давно впору обратить внимание на свою родную валюту — белорусский рубль. Начинать надо было с того, что сделали все постсоветские республики — найти историческое название своей национальной денежной единице. Сегодня стоит задача придать ей солидную покупательную способность. Пусть будет курс 1:1 с российским рублем. Сделать это можно или через деноминацию, или, что лучше, стабилизировать экономическую ситуацию и провести полноценную денежную реформу с выпуском новых банкнот.

Национальная валюта, по сути, такой же символ государственного суверенитета, как флаг, гимн, герб. Особенно для белорусов. Потеряем свои деньги — утратим экономический суверенитет, затем и политический. В лучшем случае будем играть роль нынешней Греции, только в Евразийском союзе. В белорусском варианте, проще сказать, обменять свои деньги на российские — значит отдать власть и стать буферной зоной России к западу от Смоленска. И очень надолго. Тогда станет совсем неважно, кто будет президентом Республики Беларусь.

# *Прадухілілі выбух*

*У Гродзенскай вобласці перавярнулася аўтацыстэрна з 20 тонамі прапан-бутану.*

Аварыя адбылася ў пасёлку Кабыльнік Свіслацкага раёна. Аўтацыстэрна, якая перавозіла 20 тон прапан-бутану, па невядомых прычынах страціла кіраванне і лягла на бок на абочыне.

На шчасце, выбуху не адбылося. У аварыі пацярпеў толькі кіроўца, які з ударам грудной клеткі і страсеннем мазгоў быў шпіталізаваны.

Аўтацыстэрна вытрымала ўдар, і выратавальнікі змаглі перапампаваць рэчыва ў небяспечную аўтацыстэрну на хаду.

# *Дзеля каханай — і анёл з неба*

*У Брэсце малады чалавек арганізаваў цэлае шоу, каб зрабіць прапанову сваёй каханай.*

Не менш за 50 чалавек дапамагалі юнаму жыхару Брэста прызнацца дзяўчыне ў каханні і зрабіць прапанову рукі і сэрца. Арганізаваў усё сябра жаніха. Ён завёў спецыяльную групу з незнаёмых людзей, якія павінны былі пачаць танцаваць у парку імя 1 Мая, калі туды прыйдуць закаханыя.

Пасля да маладых людзей падышоў анёлак з кольцамі. Тут і надышоў момант рабіць прапанову. Дзяўчына, канечне, адказала "Так!", а добраахвотныя памагатыя адпусцілі ў неба некалькі дзясяткаў паветраных шарыкаў.

# *На Гомельшчыне паводкі псуюць ваду*

*Падчас паводкі значна зніжаецца якасць пітной вады. Цяжэй за ўсё прыходзіцца тым, хто жыве на падтапляемых тэрыторыях.*

Тое, што падчас "вялікай вады" нельга піць ваду з калодзежаў, разумее нават дзіця. Але водаправодная вада таксама часам робіцца "ахвярай" вясенняга разліву рэк. На Гомельшчыне ваду дадаткова хларыруюць, прачышчаюць камунікацыі. Але гэта не гарантуе поўнай бяспекі. Хлорка забівае толькі мікробы, вірусы па-ранейшаму застаюцца ў некіпячонай вадзе. Таму спецыялісты раяць абавязкова кіпяціць ваду нават для таго, каб памыць гародніну ці пачысціць зубы. А піць у перыяд паводкі лепш бутляваную ваду.

# *У Гродне пустуе кватэра для алігарха*

*Двухпавярховая кватэра плошчай амаль 170 квадратных метраў да гэтага часу не прададзена.*

На першым паверсе зала, кухня і санвузел, на другім — тры спальні і яшчэ адна прыбіральня. Як дадатковы плюс падаюцца чатыры гаўбцы. Будаўнікі сцвярджаюць, што іх можна перарабіць у асобныя пакоі. А ўвогуле ў доме планіроўка вольная.

Ёсць і праблемы — апартаменты размешчаны на 11-м паверсе, а ліфт даязджае толькі да 10-га.

Калі параўноўваць кошт элітнай кватэры ў Гродне з мінскімі коштамі на нерухомасць, жыллё не падаецца такім ужо эксклюзіўным. Кошт гродзенскай шыкоўнай кватэры без аздаблення — каля 150 тысяч долараў. Да параўнання — трохпакаёўка ў Малінаўцы ад прыватнага забудоўшчыка каштуе ў раёне 100 тысяч долараў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ІХ ВАЧЫМА

# Не адпавядае!

Беларускае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах не адпавядае міжнародным стандартам. Да такой высновы прыйшла Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права (Венецыянская камісія) пасля абмеркавання закона "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" на прадмет яго адпаведнасці міжнародным нормам.

Пра гэта паведамляе агенцтва БелаПАН са спасылкай на прэс-службу Савета Еўропы.

Нагадаем, што на вывучэнне еўрапейскіх экспертаў быў накіраваны закон, які ў нашай краіне атрымаў назву "Больш за тры не збірацца". Ён забараняе без дазволу праводзіць не толькі пікеты ці мітынгі, але любыя акцыі — флэш-мобы, калектыўныя акцыі маўчання ці гульні ў снежкі.

У заключэнні Венецыянскай камісіі адзначаецца: беларускі закон аб масавых мерапрыемствах *"характарызуецца падрабязным звышрэгуляваннем працэдурных аспектаў правядзення сходаў". "Закон стварае складаную працэдуру ўзгаднення, пакідаючы ў той жа час шырокія паўнамоцтвы адміністрацыйным уладам у тым, як прымяніць гэты закон. Гэтая працэдура не адпавядае абавязацельствам дзяржавы гарантаваць і палегчыць ажыццяўленне права на свабоду сходаў",* — сказана ў дакуменце.

На думку экспертаў, закон не дае дастатковай інфармацыі аб правах і абавязках арганізатараў і ўдзельнікаў мерапрыемства, а засяроджаны на пералічэнні дзеянняў арганізатараў, якія забаронены.

*"Закон фактычна робіць незаконнымі любыя спантаныя акцыі. Ён не дазваляе арганізатарам загадзя анансаваць мерапрыемства,* — гаворыцца ў дакуменце. — *Закон змяшчае шмат абмежаванняў па часе і месцы правядзення акцый, а таксама неправамерна ўсталёўвае абмежаванні да таго, хто можа быць арганізатарам сходу".*

Для таго каб беларускі закон "Аб масавых мерапрыемствах" адпавядаў міжнародным стандартам, Венецыянская камісія рэкамендуе:

— замяніць дзеючы дазвольны прынцып правядзення мерапрыемстваў на заяўны;

— гарантаваць грамадзянам рэалізацыю законных правоў на свабоду сходаў;

— перагледзець умовы абмежаванняў таго, хто можа з'яўляцца арганізатарам мерапрыемства;

— гарантаваць, што любое грамадскае месца можа быць даступна для правядзення акцыі;

— гарантаваць, што прымусовыя меры могуць быць ужытыя толькі ў дачыненні да тых людзей, якія парушаюць грамадскі парадак, распальваюць нянавісць або правакуюць гвалт, але не супраць усёй акцыі ў цэлым.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ





# Па волі народа

*У мінулым годзе Беларусь адзначыла 20-годдзе аднаўлення незалежнасці.*
*25 жніўня 1991 года пазачарговая V сесія Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання надала сілу закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.*
*Аднаўленне незалежнасці Васіль Быкаў лічыў у першую чаргу заслугай Беларускага Народнага Фронту і яго лідара Зянона Пазьняка.*
*Які ўнёсак зрабіў у гэтую падзею кожны з дэпутатаў тагачаснай парламенцкай фракцыі БНФ,якая не перавышала 8% складу дэпутацкага корпусу?*
*Хто з іншых дэпутатаў выказваў салідарнасць з памкненнямі “групы Пазьняка”?*
*Як склаліся далейшыя лёсы народных абраннікаў? Што яны думаюць пра сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі?*
*Пра гэта пойдзе гаворка ў серыі спецыяльных публікацый пад агульнай рубрыкай “Гісторыя Беларусі ў асобах”. А першая,сённяшняя,як бы стварае для іх гістарычны фон.*
*На пытанні аглядальніка “Народнай Волі” **Марата ГАРАВОГА** адказвае **доктар гістарычных навук Захар ШЫБЕКА.***



## Незалежнасць рыхтавалася стагоддзямі

*Пытанне, якое не-не ды і ўзнікае ў грамадстве: у 1991 годзе незалежнасць знянацку звалілася на Беларусь, ці гэта — заканамерная падзея?*

Лічу: меркаванне, што незалежнасць звалілася на нас з неба, дамінуе сярод людзей, якія не ведаюць мінулага Беларусі і ніколі не жылі ў нацыянальным кантэксце.

Для такіх асоб назалежнасць стала нечаканым гістарычным паваротам.

Але нічога выпадковага не бывае ў гісторыі, бо яна будуецца на прычынна-следчых сувязях. Вынікам можа быць толькі падзея, якая рыхтавалася стагоддзямі і выцякае з папярэдняга этапу.

Дык вось беларусы — гістарычны народ, у нас і раней была дзяржаўнасць: Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае. У складзе Расійскай імперыі мы былі захопленай еўрапейскай краінай. За незалежнасць ад Расіі паслядоўна змагаліся лепшыя прадстаўнікі беларускай шляхты і разначынцаў, дзеячы народніцкага руху, Беларускай Народнай Рэспублікі і антыкамуністычнага супраціву 1920—1980-х гадоў.

Ідэя незалежнасці, як ні хацелі яе вынішчыць бальшавікі, жыла не толькі ў асяродку беларускай эміграцыі, але і сярод дасведчаных і адукаваных грамадзян БССР. Існаваў народ, яго мова, культура, гісторыя і традыцыя. І ўсё гэта некалі павінна было выліцца ў акт дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Заслуга апазіцыі БНФ у тым, што яна захавала гістарычную пераемнасць і пачала актыўна рэалізоўваць яе. Пасля смерці Сталіна рух за ідэю дзяржаўнай незалежнасці актывізаваўся, нягледзячы на тое, што засталіся адзінкі — носьбіты гэтай ідэі. Але гэтыя адзінкі стваралі вакол сябе кола аднадумцаў. Вялікую ролю ў гэтай справе адыграла Ларыса Геніюш, бо ўсе дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі так ці інакш былі звязаны з ёй. І яна — як апошні з магікан — перадала ідэю незалежнасці Беларусі маладому пакаленню, якое дало развіццё гэтай ідэі, стварыла Беларускі Народны Фронт і аб'яднала вакол сябе значную частку грамадства.

Часта БНФ абвінавачваюць у тым, што ён зрабіў памылку, бо прытрымліваўся вузка нацыяналістычных пазіцый у час, які адрозніваўся ад перыяду 1920—1930-х гадоў, калі працавала нацыянальная ідэя. На самай справе я не бачу падстаў для абвінавачвання, бо нацыянальную ідэю заўжды хтосьці павінен прэзентаваць і адлюстроўваць настрой той часткі грамадства, для якой гэтая ідэя з'яўляецца святой. А калі б не было БНФ, хто прэзентаваў бы гэтую ідэю? Тады б у нас нічога беларускага не было, і мы б даўно былі ў складзе Расіі як яе правінцыя.

На прыкладзе Чарнобылю франтаўцы паказалі ўсю заганнасць бальшавіцкай сістэмы, звязалі гэтую праблему са стратай беларускай дзяржаўнасці і ўзнялі нацыянальную ідэю. У гэтым гістарычная заслуга Фронту, хаця ён і не дабіўся ўлады. Менавіта самая вялікая на постсавецкай прасторы зрусіфікаванасць беларускага грамадства і недахоп нацыянальных сіл не дазволілі БНФ узяць пад кантроль выканаўчыя дзяржаўныя структуры. Нягледзячы на сваю паразу, Фронт захаваў нацыянальную ідэю, якая з кожным днём ахоплівае ўсё большую частку маладога пакалення. Нават чынавенства сёння разумее, што нацыянальная ідэя выгадная для ўсіх, у тым ліку і для яго.

І хаця ў незалежнасці краіны кожны бачыць сваё, большасць грамадства падтрымлівае ідэю нацыянальнай дзяржаўнасці. Нават яе праціўнікі сёння баяцца адкрыта выказваца супраць, бо ідэя незалежнасці пануе ў Беларусі, нягледзячы на цемрашальства некаторых прадстаўнікоў улады.

## 25 жніўня — вынік кампрамісу

*З якімі гістарычнымі падзеямі і асобамі асацыюецца 25 жніўня 1991 года і яго героі — парламенцкая фракцыя БНФ?*

Падзею 25 жніўня 1991 года нельга параўноўваць з абвяшчэннем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. Я думаю, што акт 1991 года не цягне на падзею 1918 года, калі была абвешчана ідэя незалежнасці сапраўды вольнай еўрапейскай дзяржавы. Акт 1991 года больш нагадвае абвяшчэнне БССР 1 студзеня 1919 года. У абодвух выпадках гэта справа камуністаў, якіх у Вярхоўным Савеце БССР была большасць. Яны лічылі Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР часовай мерай. Паперка для іх нічога не азначала. У 1919 годзе абвяшчэнне БССР было для бальшавікоў дыпламатычным ходам (на ўсякі выпадак) у кантэксце барацьбы савецкай Расіі з Польшчай. У 1991 годзе заканадаўчае афармленне Дэкларацыі аб суверэнітэце таксама стала своеасаблівым тактычным ходам камуністаў, якія лічылі яго саступкай нацыяналістам і сепаратыстам, але разлічвалі на захаванне СССР.

Дарэчы, беларуская партнаменклатура была не супраць, каб яе залежнасць ад Масквы трошкі паменшылася. Але ў чынавенства нават не хапала фантазіі ўявіць, што Беларусь стане незалежнай ад Крамля дзяржавай. Так што камуністы-наменклатуршчыкі ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання займалі няшчырую пазіцыю. Фракцыя БНФ таксама лічыла тактычным ходам наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце сілы закона, бо не разглядала гэтую падзею як канчатковую заваёву поўнай суверэннасці і незалежнасці дзяржавы, а прымала яе як пэўны этап. Бо палітычныя ідэалы дэпутатаў-апазіцыянераў былі нашмат шырэйшымі і глыбейшымі, чым тое, што паўстала пасля 25 жніўня 1991 года. Гэта быў кампраміс беларускіх нацыянальных і савецка-бальшавіцкіх сіл.

Сярод камуністычных дзеячаў пачатку 1990-х гадоў я не бачу ні аднаго, хто змог бы параўнацца з нацыянал-бальшавікамі перыяду ўтварэння БССР — са Зміцерам Жылуновічам і Алесем Чарвяковым. Дзеячы КПБ пачатку 1990-х у пераважнай большасці страцілі сваю нацыянальную адметнасць і былі шэрымі, безыніцыятыўнымі і паслухмянымі выканаўцамі волі Масквы. Іншая справа — бясспрэчны лідар апазіцыі Зянон Пазьняк. Калі б ён нарадзіўся раней і быў сталым палітыкам ў 1918 годзе, магчыма, Пазьняк змог бы дабіцца незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі нават у тых няпростых умовах. Бо ён быў больш моцнай і харызматычнай асобай, чым мяккія і нерашучыя лідары БНР. Гэтым дэмакратычным інтэлігентам не хапала адукаванасці, дыпламатычнасці і празорлівасці Пазьняка. Але на пачатку 1990-х ва ўмовах татальнага засілля камунізму Пазьняк не мог напоўніцу рэалізаваць свае бліскучыя здольнасці лідара. Нават тое, што яму ўдалося здзейсніць, — гэта фантастыка. Узровень сябраў дэпутацкай фракцыі БНФ таксама аказаўся на парадак вышэй патэнцыялу лідараў БНР. Вакол Пазьняка сфарміравалася даволі моцная каманда, якая магла ўтварыць сапраўды нацыянальны ўрад і правесці дэмакратычныя рэформы. А калі б Беларусь стала дэмакратычнай, то і Расія таксама атрымала б больш шанцаў стаць дэмакратычнай. Ва ўсялякім разе працэс яе дэмакратызацыі ішоў бы хутчэй, бо еўрапейскія каштоўнасці заўсёды траплялі ў Расію праз Беларусь, якая была кантактнай зонай паміж заходнееўрапейскай цывілізацыяй і ўсходнім еўразійствам.

## Настроі вуліцы ціснулі на дэпутатаў

*Чаму 20 год таму парламенцкай фракцыі БНФ і яе прыхільнікам удалося дабіцца аднаўлення незалежнасці?*

Я не згодны з думкай, што прыняцце наменклатурнай большасцю ідэі аднаўлення незалежнасці Беларусі было выключнай заслугай тых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія з'яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту, і тых парламентарыяў, якія таксама адстойвалі дэмакратыю і фактычна дзейнічалі разам з дэпутатамі-пазьнякоўцамі. Трэба падкрэсліць, што парламентарыі выконвалі волю і выказвалі настрой народа. Ніхто не хацеў больш цярпець партыйны дыктат, падман і Чарнобыль. Артадаксальныя камуністы ўжо ўсіх дасталі, і таму людзі адрынулі іх.

Вялікі ўплыў на рашэнне дэпутатаў-камуністаў зрабілі падзеі, звязаныя са спробай путчу ў Маскве 19 жніўня 1991 года і са стратай уплыву прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова. Пасля таго як расійскія дэмакраты на чале з Барысам Ельцыным перамаглі путчыстаў, у наменклатуры не было выбару. Асцерагаючыся народнага гневу і рэпрэсій з боку ельцынскай Расіі, камуністычныя дэпутаты беларускага парламента, згодна з традыцыяй слепа падпарадкоўвацца Маскве і новаму крамлёўскаму чырвонаму цару, выбудоўваюць адпаведны статус Беларусі па мадэлі Расіі і ўхваляюць амаль усе прапановы дэпутацкай фракцыі, у якую ўваходзілі прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту. Камуністы вымушаны былі пайсці на гэта, каб захаваць свае льготы. А дэпутаты-бээнэфаўцы разумелі становішча камуністаў і падштурхоўвалі іх дэпутатаў у парламенце да аднаўлення незалежнасці Беларусі. Дарэчы, камуністы ніколі не разлічвалі, што саюзныя адносіны з Расіяй могуць прыпыніцца, вельмі хутка і паспяхова пераадолелі паніку, наладзілі кансалідацыю, структурызаваліся і праз год сталі адзінай палітычнай сілай на чале з прэм'ерам Вячаславам Кебічам. На той час у грамадстве былі тры палітычныя дыскурсы: наменклатурна-камуністычны, які прэзентаваў Вячаслаў Кебіч, нацыянальна-дэмакратычны — Зянон Пазьняк і прамежкавы, кампрамісны — Станіслаў Шушкевіч. Прычым спікер Вярхоўнага Савета хацеў памірыць усіх на платформе саюза з дэмакратычнай Расіяй. Аднак адной дэмакратычнасці Шушкевічу аказалася замала, каб стаць нацыянальным лідарам, бо яму не хапала смеласці і харызмы. Акрамя таго, ён, як усе савецкія дзеячы, баяўся нацыяналізму, БНФ і асабіста Пазьняка. Аднак і наменклатурная эліта Беларусі на той час драбнела і таксама не мела дастойных лідараў, бо самых лепшых забірала Масква, а рэспублікам пакідала больш паслухмяных, чым разумных. І пасля атрымання незалежнасці, калі трэба было прымаць важныя рашэнні і браць адказнасць на сябе, у айчыннай наменклатуры не аказалася дастойнага лідара. У сітуацыі палітычнага вакууму ў стане наменклатуры і прыйшла да ўлады зусім невядомая, але харызматычная фігура з глыбокай правінцыі.

## Парламент — важны інструмент

*Якія высновы павінна зрабіць беларускае грамадства з парламенцкай перамогі фракцыі Беларускага Народнага Фронту?*

Гэтая перамога засведчыла вялікія магчымасці парламентарызму і паказала, што парламенцкім шляхам можна вырашаць вельмі сур'ёзныя праблемы і нават пытанні палітычнай улады. І не трэба ні рэвалюцый, ні крыві, ні барыкад, бо парламент — гэта такі механізм, які дазваляе мірным шляхам перайсці ад адной мадэлі палітычнай улады да другой. Перамога БНФ парламенцкім шляхам павінна стаць важным урокам на будучыню.

Сам працэс надання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце сілы закона засведчыў, што большасць у парламенце не заўсёды азначае перамогу гэтай большасці. Невялікая купка дэпутатаў фракцыі БНФ перамагла, дзякуючы сваёй рашучасці, згуртаванасці, мэтанакіраванасці, працавітасці, маральнасці, сіле перакананняў і аргументацыі. Трэба мець на ўвазе, што ў вострай гістарычнай сітуацыі вельмі важным фактарам з'яўляецца настрой грамадства. І дэпутаты-апазіцыянеры гэты фактар выкарысталі напоўніцу. У маштабах краіны парламенцкая камуністычная большасць аказалася ў меншасці са сваімі састарэлымі ідэаламі і палітычнай праграмай. Вось чаму прадстаўнікам партнаменклатуры ў Вярхоўным Савеце не заставалася нічога іншага, як падпарадкавацца волі народа, якую ў парламенце адлюстроўвала фракцыя дэпутатаў, што былі сябрамі Беларускага Народнага Фронту. Гэты факт сведчыць, што, у прынцыпе, не вельмі важна, хто знаходзіцца ў парламенце. Калі сітуацыя рэзка змяняецца, то гэтыя дэпутаты вымушаны будуць рабіць тое, што патрабуе час і да чаго іх прымушае народ. І гэта самы галоўны ўрок тых падзей 20-гадовай даўніны. Мы павінны памятаць, што парламент павінен быць, ён заўсёды важны, ён можа прыняць самыя нечаканыя рашэнні, нягледзячы на яго склад. Усё залежыць урэшце ад волі народа і яго яркіх прадстаўнікоў, а не ад парламента, ён — толькі інструмент. І калі ёсць воля народа, парламент толькі выконвае яе, а калі не выконвае — яго сам народ разганяе.

## Зробленае апазіцыяй захапляе

*Чаму ўсё-такі Зянону Пазьняку і яго прыхільнікам не ўдалося давесці сваю справу да канца і павесці за сабой народ? Чаму камуністы перайгралі нацыянал-дэмакратаў?*

Я думаю, што нашым апазіцыйным палітыкам тады трошкі не хапіла досведу пра стан грамадства, яго каштоўнасці, настроі і ўзровень саветызаванасці. Апазіцыя перажывала эйфарыю ад перамогі і палічыла, што пад нацыянальныя лозунгі вяртання роднай мовы, беларускай гісторыі і культуры адразу ўсе і пойдуць. Аднак нацыянал-дэмакратам трэба было надаваць большую ўвагу праблемам сацыяльна-эканамічнага становішча, тады вельмі складанага, больш далікатна весці палітыку адносна беларускай мовы і Масквы. Але гэта іх віна і бяда, бо яны ў той час не маглі паіншаму сябе паводзіць. У іх не было палітычнага вопыту, сіл, часу і адпаведных інструментаў, каб належным чынам уздзейнічаць на народ.

Да спробы путчу ў Маскве 19 жніўня 1991 года Беларускі Народны Фронт толькі-толькі ўздымаўся на ногі, гэта ўжо потым, пасля прыпынення дзейнасці КПБ-КПСС, на нейкі кароткі перыяд Фронт стаў самай уплывовай палітычнай сілай у краіне. Аднак БНФ мог не шмат зрабіць у сітуацыі, калі ўвесь кантроль над эканомікай і СМІ знаходзіўся ў руках наменклатуры, а КДБ — пад кантролем Крамля. І хаця апазіцыя прапаноўвала добрую ідэю — распусціць Вярхоўны Савет і сфарміраваць новы ўрад, Станіслаў Шушкевіч не падтрымаў нацыянал-дэмакратаў у гэты крытычны момант. На жаль, БНФ не хапіла часу і рэсурсаў, каб неяк адаптаваць сваю радыкальна-рэвалюцыйную праграму да патрэб той сітуацыі і скаардынаваць яе. Апазіцыя магла гэта зрабіць, калі б было больш часу і нейкае спрыянне хоць бы на ўзроўні парламента. Урэшце, нацыянал-дэмакратам не ўдалося пашырыць свой уплыў у парламенце, ва ўрадзе і ў большай частцы грамадства. Па аб'ектыўных прычынах апазіцыя не магла зрабіць больш таго, што яна зрабіла. Аднак нават тое, што яна зрабіла, выклікае захапленне.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія актыўна садзейнічалі парламентарыям — сябрам Беларускага Народнага Фронту адстойваць дэмакратыю, незалежнасць Беларусі**

**Станіслаў Бабачонак,**
**Эдуард Багаўцоў,**
**Анатоль Барысенка,**
**Аляксандр Белы,**
**Яўген Бядулін,**
**Сяргей Бярдаўцаў,**
**Уладзімір Ваўчэцкі,**
**Анатоль Волкаў,**
**Аляксандр Вярцінскі,**
**Анатоль Вярцінскі,**
**Рыгор Вячэрскі,**
**Віктар Ганчар,**
**Мікалай Гарэлік,**
**Іван Герасюк,**
**Ніл Гілевіч,**
**Яўген Глушкевіч,**
**Уладзімір Грыбанаў,**
**Іван Данілевіч,**
**Аляксей Даўлюд,**
**Інэса Драбышэўская,**
**Пётр Драган,**
**Валерый Ермалаеў,**
**Леанід Звераў,**
**Валерый Зяленін,**
**Георгій Какарэка,**
**Мікалай Калбаска,**
**Яўген Канапля,**
**Аляксей Канцэвіч,**
**Аляксей Карпаў,**
**Генадзь Карпенка,**
**Уладзімір Лазарэвіч,**
**Аляксандр Лукашоў,**
**Анатоль Лябедзька,**
**Аляксандр Лятко,**
**Генадзь Маісееў,**
**Міхаіл Мацюшонак,**
**Уладзімір Новік,**
**Барыс Савіцкі,**
**Ніна Салдатава,**
**Уладзімір Сапронаў,**
**Аляксандр Сасноў,**
**Леанід Сечка,**
**Міхаіл Слямнёў,**
**Аляксандр Спіглазаў,**
**Уладзімір Станкевіч,**
**Баляслаў Сушкевіч,**
**Іван Сямашка,**
**Валерый Сярдзюк,**
**Іосіф Сярэдзіч,**
**Леанід Тарасенка,**
**Іван Трусаў,**
**Віктар Уласенка,**
**Міхаіл Фарфель,**
**Уладзімір Хвошч,**
**Яўген Цумараў,**
**Уладзімір Цялежнікаў,**
**Аляксей Шаўнін,**
**Уладзімір Шаўцоў,**
**Васіль Шачак,**
**Станіслаў Шушкевіч,**
**Аляксандр Шыпко,**
**Міхаіл Якубоўскі,**
**Анатоль Янец*.**

* Вядома ж, сярод іншых дэпутатаў былі і тыя, хто займаў непаслядоўную пазіцыю — здаралася, падтрымлівалі дэмакратычныя рашэнні, але ў асноўным адстойвалі інтарэсы партнаменклатуры.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія з'яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту і якія, згуртаваўшыся, дзейнічалі як асобная парламенцкая фракцыя:**

**Мікалай Аксаміт,**
**Віктар Алампіеў,**
**Сяргей Антончык,**
**Лявон Баршчэўскі,**
**Юрый Беленькі,**
**Валянцін Голубеў,**
**Генадзь Грушавы,**
**Барыс Гюнтэр,**
**Вольга Галубовіч,**
**Ігар Гермянчук,**
**Лявон Дзейка,**
**Уладзімір Заблоцкі,**
**Лявон Зданевіч,**
**Мікалай Крыжаноўскі,**
**Віктар Какоўка,**
**Мікалай Маркевіч,**
**Віталь Малашка,**
**Сяргей Навумчык,**
**Сяргей Папкоў,**
**Зянон Пазьняк,**
**Ігар Пырх,**
**Пётр Садоўскі,**
**Сяргей Слабчанка,**
**Галіна Сямдзянава,**
**Алег Трусаў,**
**Павел Холад,**
**Алесь Шут.**

*Якія пачуцці выклікала ў вас аднаўленне незалежнасці краіны?*
*Як гэтая падзея паўплывала на вашу працу?*
*Што трэба зрабіць дзеля ўшанавання імёнаў дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія з'яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту?*
*На гэтыя пытанні адказваюць выбітныя дзеячы беларускай культуры.*

### Валер МАЗЫНСКІ, тэатральны рэжысёр:



— Тады яшчэ не было адчування Беларусі як маёй краіны, аграмаднай глыбіні падмурку, які мусіць даваць апірышча не толькі маім дзецям і ўнукам, але і наступным пакаленням. А іншага адчування і не магло быць, бо рабская савецкая псіхалогія не магла так хутка разбурыцца, як абрынулася таталітарная дзяржава. І хаця было нейкае адчуванне свабоды, мы яшчэ не разумелі значэння цярпімасці адзін да аднаго. На жаль, і да гэтай пары не вельмі разумеем. Вось чаму мы такія раз'яднаныя і такія тутэйшыя. І каб перастаць быць тутэйшымі, патрэбны час, выхаванне, адукацыя і інтэлект некалькіх пакаленняў. Каб беларусы адчулі цану самім сабе, цану свайго. А гэтая цана складваецца не толькі з гонару і годнасці, але таксама з грошай і маёмасці. Калі чалавеку ёсць што губляць і абараняць.

Адразу пасля таго, як краіна стала незалежнай, пад дахам Купалаўскага тэатра я арганізаваў тэатр-лабараторыю беларускай драматургіі “Вольная сцэна”. Праз год мы адасобіліся ад Купалаўскага тэатра і сталі самастойным калектывам. Да 1995 года працавалі больш-менш нармальна, але потым пачаўся ўціск, які скончыўся тым, што ў 2000 годзе мы вымушаны былі прыпыніць дзейнасць “Вольнай сцэны”.

Памяць пра дэпутатаў — сябраў Беларускага Народнага Фронту навечна ўшанавана ў сэрцах тых беларусаў, якія сапраўды разумеюць каштоўнасці свабоды і незалежнасці. Спадзяюся, што надыдзе час, калі такое разуменне будзе і на дзяржаўным узроўні.

### Аляксей МАРАЧКІН, мастак:



— Падзеі 1991 года ў нашай краіне адгукнуліся ў сэрцах кожнага беларуса. І кожны ўспрымаў незалежнасць Беларусі па-свойму. Якраз у тыя гады частка айчынных мастакоў аб'ядналася ў творчую суполку “Пагоня”. І натуральна, што сябры “Пагоні” Яўген Кулік, Мікола Купава, Уладзімір Крукоўскі, Лявон Бартлаў і Леў Талбузін, а таксама геральдык Анатоль Цітоў, анімаліст Уладзімір Лукашык і архітэктар Лявонцій Зданевіч актыўна спрычыніліся да таго, каб нашы нацыянальныя гістарычныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня” — былі прыняты Вярхоўным Саветам як дзяржаўныя сімвалы. Мы таксама ведаем, хто распрацоўваў эскізы беларускіх грошай — талераў. Але мы не ведаем, каму належыць ідэя навязаць нам крыху падпраўлены бээсэсэраўскі камуністычны герб.

Я да гэтага часу захоўваю харугву нашай творчай суполкі “Пагоня”, намаляваную выбітным мастаком Рыгорам Сітніцам. Гэтай харугвай, якая і па сёння з'яўляецца сімвалам нашай суполкі, мы адкрываем усе выставы “Пагоні”. Веру, як бы гэта пафасна ні гучала, што паходня, запаленая ў тыя часы ў змаганні за родную Беларусь, ніколі не згасне ў нашых сэрцах.

### Мікола КУПАВА, мастак:



— У мяне засталіся неверагодна станоўчыя пачуцці ад падзей, звязаных з аднаўленнем незалежнасці. Справа ў тым, што разам з іншымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, якія ўваходзілі ў аргкамітэт БНФ “Адраджэньне”, я прымаў непасрэдны ўдзел ў гэтай працы — выязджаў у розныя мясціны краіны і склікаў людзей на плошчу Незалежнасці перад Домам урада, дзе адбываліся ўнушальныя мітынгі ў падтрымку дэпутатаў — сябраў БНФ у Вярхоўным Савеце.

Тады на творчасць не было часу, таму што яго адымала плошча. І толькі потым пад уздзеяннем падзей, звязаных з аднаўленнем незалежнасці, прыйшло творчае натхненне і жаданне ўвасобіць вобразы нашых вялікіх продкаў — Міндоўга, Альгерда, Вітаўта, Тадэвуша Касцюшкі, Канстанціна Каліноўскага, а таксама гераічныя падзеі далёкага мінулага, у тым ліку бітвы на Сініх Водах і пад Грунвальдам. Але ў дробнай графіцы — у знаках паштовай аплаты (маркі, паштоўкі і канверты) — тэма аднаўлення незалежнасці была адлюстравана ў поўную сілу. Так, на пачатку 1992 года я атрымаў заказ на падрыхтоўку эскізаў першых паштовых марак Рэспублікі Беларусь з выявамі дзяржаўных сімвалаў краіны — бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня”. Яшчэ ў 1986 годзе я выкарыстаў выяву нацыянальнага сцяга ў ілюстрацыях да беларускай народнай казкі “Сіняя світа налева пашыта”, а напярэдадні развалу СССР распрацаваў эскіз канверта з выявай старадаўняй “Пагоні” на фоне карты БНР. Гэты канверт быў надрукаваны масавым тыражом на Пермскай фабрыцы Дзяржзнака і паступіў у абарачэнне яшчэ ў савецкія часы. Разам з іншымі мастакамі я рыхтаваў выставу нацыянальных сімвалаў, якая напярэдадні іх зацвярджэння ў якасці дзяржаўных — 19 верасня 1991 года — экспанавалася ў фае Вярхоўнага Савета. А потым удзельнічаў у працы парламенцкай камісіі па падрыхтоўцы эталонаў дзяржаўных бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня”.

Я думаю, што прыйдзе час, калі ў Беларусі будзе помнік з імёнамі і прозвішчамі ўсіх людзей, якія спрычыніліся да аднаўлення незалежнасці.

### Уладзімір ХАЛІП, кінадраматург:



— Вяртанне незалежнасці не было для мяне нечаканасцю. Я бачыў, як людзі жылі, і добра ведаў іх настроі. Абсалютная большасць людзей успрыняла аднаўленне незалежнасці як заканамернасць. Я не лічу гэта падарункам лёсу, тым болей падарункам вялікага СССР, які пачаў распадацца. Не. Беларусь пачала змагацца за сваю незалежнасць адразу, як толькі трапіла пад расійскую акупацыю, і змагалася трыста гадоў. Сярод паўстанняў былі і тыя, што яшчэ ўвойдуць у гісторыю. Чамусьці забыліся пра слуцкіх паўстанцаў, не засталіся на нашай зямлі нават магілы гэтых людзей, якія ў рэгулярным беларускім войску БНР пад бел-чырвона-белым сцягам змагаліся за нашу незалежнасць. А войска БНР Станіслава Булак-Балаховіча, якое толькі дзякуючы нечаканаму і, як заўсёды, злому павароту гісторыі не здолела вызваліць Беларусь, але якое таксама білася ў Беларусі пад бел-чырвона-белым сцягам.

Я таксама чакаў, што некалі Беларусь абавязкова будзе вольнай. І яна стала вольнай па волі народа, дзякуючы яго празе да свабоды і незалежнасці. Гэтую волю народа выявілі ў сваёй дзейнасці дэпутаты парламенцкай апазіцыі БНФ. Іх чын — сапраўдны подзвіг герояў, гонар і хвала ім. Іншая справа, як гэта часта бывае пасля перамогі, вынікі яе ўзялі зусім іншыя людзі, якія недзе там сядзелі ў бульбе. Занадта вялікай была эйфарыя, занадта абмежаваныя былі ў нас правадыры, якія ў той час аказаліся на палітычнай сцэне. З-за гэтай іх бесклапотнасці мы страцілі свабоду і незалежнасць. Але я веру глыбока і непахісна, што хутка Беларусь зноў будзе па-сапраўднаму вольнай і незалежнай.

На маю творчасць гэта ніяк не паўплывала, бо свабодны чалавек застаецца свабодным у любых абставінах і робіць тое, што лічыць патрэбным. Так і я рабіў. Іншая справа, што ў гэты час я быў мастацкім кіраўніком студыі дакументальных фільмаў “Летапіс”, і мы вельмі спадзяваліся, што будзе нейкае паляпшэнне ўмоў здачы нашых твораў. У той час мы запусцілі ў вытворчасць праграму “Адраджэньне”, якая павінна была ў дакументальным кіно даць панараму жыцця Беларусі на працягу ўсёй яе гісторыі. Тады было шэсць інстанцый здачы фільмаў, і за кожны ішло сапраўднае змаганне. Але ў гэты час з Дзяржкіно СССР у Мінск прыйшла папера з дазволам не здаваць фільмы начальству, а толькі паведамляць яму пра зробленыя стужкі. Я радасна пабег з гэтай паперай у Міністэрства культуры. Але намеснік міністра меланхалічна паглядзеў гэтую паперу і сказаў : “А для мяне гэта не дакумент, мы ўжо незалежныя. Усё як было, так і будзе. Будзеце здаваць фільмы па той жа схеме”. Вось так мы сустрэлі незалежнасць краіны і творчую незалежнасць.

Людзі, якія дабіліся аднаўлення незалежнасці Беларусі, ужо ўвайшлі ў айчынную гісторыю і ў ёй застануцца. А тыя, хто ўжо пайшоў з жыцця, на вялікі жаль, як Ігар Гермянчук, Ігар Пырх і Галіна Сямдзянава, павінны застацца з намі ў назвах вуліц і плошчаў. Безумоўна, калі Беларусь стане вольнай і незалежнай, будзе зменена гэтая камуністычная вар'яцкая тапаніміка, якая і сёння гняце беларусаў. І, безумоўна, будуць помнікі, мемарыялы і кнігі пра беларусаў-змагароў. Трэба абавязкова стварыць і мастацкія фільмы пра той час.

## Ад рэдакцыі

**У бліжэйшы час “Народная Воля” распачне друкаваць матэрыялы пра дэпутатаў-змагароў Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, якія, з'яўляючыся сябрамі Беларускага Народнага Фронту, уваходзілі ў апазіцыйную парламенцкую фракцыю.**

**Першы нарыс — пра Галіну Сямдзянаву, якую, на жаль, нядаўна напаткала заўчасная смерць.**

МНЕНИЕ

# Инициатива Усса в зеркале белорусской оппозиции

В газете "Народная Воля" за 14 февраля напечатана подборка высказываний лидеров оппозиции, так называемой "шестерки", об их отношении к инициативе Дмитрия Усса.

Смысл инициативы последнего прост и понятен любому человеку: через прямое участие представителей кандидатов в работе избирательных комиссий обеспечить прозрачные и честные выборы. Даже в России нечто подобное есть. Казалось, что это понятное всем предложение должно вызвать у оппозиционных партий желание подхватить инициативу, объединить усилия. Тем более в преддверии парламентских выборов, в которых они очень уж хотели бы поучаствовать.

Хорошо, хоть трое из шестерых заявили о своей, в принципе, поддержке этой инициативы. Дескать, они дали "зеленый свет" участию членов своих организаций в этой акции. Об объединении усилий, как всегда, речь не идет.

Вторая тройка высказалась более откровенно. Партия БНФ, мол, занята другими, более важными делами. Какими?

Партия "Справедливый мир" не хочет работать на нулевой результат. (Правда, такой принцип не мешает этой партии ограничиваться таким результатом уже долгое время.)

Общественное движение "За свободу" просто обижено. Оно раньше всех выдвигало подобные предложения, но, видите, вредная Ермошина их не поддержала. А Д.Усс, видимо, хочет присвоить себе инициативу...

И не поймешь, то ли это политическое недомыслие, то ли злой умысел.

Становится все ясней, что в нашей стране власть и так называемая титульная оппозиция действуют как бы в одной связке. Не только власть боится честного подсчета голосов, но и оппозиция борется за честные выборы формально. Возможно, боятся узнать о своем реальном политическом весе в обществе.

Печально. Оппозиция сама дискредитирует себя. Вот почему так важно, чтобы все демократически мыслящие члены оппозиционных партий активно поддержали инициативу Д.Усса.

Без серьезного улучшения избирательного законодательства участие в выборах по меньшей мере абсурдно.

**Э.И.ВАСИЛЬЕВ, пенсионер.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Каго ў дурдом, каго ў турму

***У час сустрэчы з жыхарамі Смалявіцкага раёна, незадаволенымі будаўніцтвам кітайцамі індустрыяльнага парку, старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура заявіў: "Я б вас у бальніцу ці яшчэ куды змясціў бы з-за таго, што вы нагнятаеце гэтыя страхі!"***

*Узнікла важкая нагода*
*Сабрацца ў лідара чынам:*
*Паміж уладай і народам*
*Прапалі злагада і згода.*
*"Дык што рабіць, — пытанне, — нам?"*
*Спачатку чын найбольш пузаты*
*Турботу выказаў сваю:*
*— Вось я працую як пракляты,*
*Бывае, што не ем, не пью.*
*Я дбаю днямі і начамі*
*Пра лёс народа, пра людзей.*
*А хто ўсё гэта прыкмячае?*
*Удзячнасць ад народа дзе?*
*— І ні пашаны нам, ні славы, —*
*З тугой азваўся чын другі. —*
*Я над праблемамі дзяржавы*
*Каторы год сушу мазгі.*
*Ці з кабінета, ці з машыны*
*Я толькі й бачу белы свет.*
*А ад насельнікаў краіны*
*Адны праклёны чую ўслед.*
*Ёсць і ў наступнага спакуса*
*Дашчэнту зганьбіць просты люд:*
*— Прэтэнзіі да беларусаў*
*Канкрэтна выкажу вось тут.*
*На крызіснай бурлівай хвалі*
*Мы ўсё зрабілі, што маглі.*
*Для іх знарок дэвальвавалі*
*Валюту нашую — рублі.*
*Даляры людзям на халеры?*
*Не трэба ім буржуйскі шык.*
*Цяпер яны ўсе мільянеры —*
*І праграміст, і вартаўнік.*
*Яшчэ ў нас розуму хапіла*
*Падняць да плешкі цэны ўсе.*
*Няхай мужык не жлукціць піва,*
*А дзецям грошыкі нясе.*
*І ўвогуле: выдатна гэта,*
*Што ў іх збяднелы рацыён.*
*Усім карысць дае дыета,*
*Таму замест былой катлеты*
*Хай на стале стаіць булён.*
*І што нясецца з шэрай масы*
*Замест падзякі вам і мне?*
*Люд патрабуе сала-мяса*
*І беспадстаўна нас кляне.*
*Уставіў слова дзядзька хмуры:*
*— А колькі робім мы патуг,*
*Каб дух*
*Сапраўднае культуры*
*І не прапаў, і не патух.*
*Для гэтага на ўсё гатовы,*
*Здавольваем іх кожны "бзік".*
*Замест мужыцкай нейкай "мовы"*
*Далі для ўжытку ім "язык".*
*Было яшчэ там слоў нямала*
*"Пра шмат даброт і шмат выгод".*
*Чынам, нарэшце, ясна стала:*
*Нягеглы, дрэнны наш народ.*
*— І ён такім, — падвёў хтось рыску, —*
*Быў на працягу ўсіх вякоў.*
*І не дастойны ён і блізка*
*Такіх, як мы, кіраўнікоў.*
*Народ для нас патрэбен новы...*
*— А дзе ж узяць яго, скажы?*
*— Няма праблем у гэтым, што вы!*
*Кітайцаў возьмем з-за мяжы!*
*Іх гэтак многа, нібы вошай*
*На занядбаным жабраку.*
*Яны не просяць многа грошай —*
*Абы яды крыху ў руку...*
*— Куды ж тутэйшы люд падзенем? —*
*Пытанне хтось задаў яму.*
*— Мы адпаведна ўсіх падзелім:*
*Каго ў дурдом, каго ў турму.*

* * *

*Жылі мы на галоднай пайцы*
*За пуставатыя рублі...*
*Цяпер увогуле кітайцы*
*На гэтай будуць жыць зямлі.*

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

## *Кто боится теледебатов?*

"Кандидаты в депутаты теперь получили возможность дебатировать в теле- и радиоэфире, если, конечно, кандидаты не побоятся выйти в эфир", — заявила на днях глава Центризбиркома Лидия Ермошина.

Однако я считаю, что бояться теледебатов есть основания у нынешних чиновников. У нас в Жодино они разрушили большое тепличное хозяйство. Нужное городу предприятие было доведено до банкротства, и сейчас там растет только трава.

Почему сегодня нам, представителям политических и общественных организаций, должно быть стыдно за то, что в 8-м микрорайоне Жодино нет школы? Это очень большой микрорайон, и дети вынуждены ходить через дорогу, в переполненные школы. А ведь если бы была принципиальная позиция депутатов, то школа уже давно была бы построена.

Вопросов очень много. И если я приму решение участвовать в этих выборах, мне как кандидату в депутаты будет не стыдно высказать свою позицию и о местных проблемах, и о проблемах, касающихся всей страны. Хотелось бы видеть Республику Беларусь полноправным членом Совета Европы, чтобы у нас была Общественная палата, как в других странах, чтобы при министерствах были общественные советы, чтобы ко мнению гражданского общества прислушивались чиновники. В настоящее время этого нет.

Так что, я думаю, если теледебаты будут и состоятся в прямом эфире, то стыдно будет не представителям политических и общественных организаций, а тем "законно" избранным, которые не сделали для людей ничего конкретного.

**Александр ВОЛЧАНИН, член Объединенной гражданской партии.**

*г.Жодино.*

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## *Бензін падаражэў больш чым удвая*

***З цікавасцю пачытаў публікацыю пра заробкі і кошты на бензін у краінах Мытнага саюза. Нагадайце, калі ласка, як змяніліся кошты на паліва ў Беларусі ад пачатку мінулага года.***

**А.Казючыц, Мінскі раён.**

Трэба адзначыць, што нядаўняе павышэнне коштаў на паліва ў Беларусі — першае ў 2012 годзе. Летась бензін даражэў 11 раз, а адзін раз — па распараджэнні Лукашэнкі — патаннеў. У сярэднім за мінулы год аўтамабільнае паліва на беларускіх запраўках падаражэла ў 2 разы. А калі дадаць нядаўняе сёлетняе павышэнне, то атрымаецца, што ад пачатку мінулага года кошты на аўтамабільнае паліва выраслі больш чым удвая, а на дызельнае паліва — нават у 2,5 раза. Заробкі так не раслі. У студзені мінулага года сярэдні заробак па краіне складаў 1,4 мільёна, у студзені 2012-га — 2,8 мільёна.




**Як падаражэў бензін ад пачатку 2011 года (у бел. рублях)**

| Паліва | Кошт за літр на 1.01.2011 | Кошт за літр на 3.12.2011 | Кошт за літр на 14.03.2012 |
|---|---|---|---|
| Нармаль-80 | 2250 | 5400 | **5700** |
| Аі-92 | 2870 | 5700 | **6000** |
| Аі-95 | 3240 | 6100 | **6450** |
| Дызельнае паліва | 2580 | 6300 | **6600** |

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Яе ўсходы

Тэлеграму, якая прыйшла на яе імя, зачытаў старшыня:

— Ніна Міхайлаўна, сардэчна віншуем! Ваш вучань, Уладзімір Васільевіч Кавалёнак, — у космасе!

Актавая зала літаральна ўзарвалася апладысментамі. Удзельнікі сходу горача віталі гэтае паведамленне, віншавалі настаўніцу.

У адказ яна сціпла ўсміхалася: "А мне за што?"

...Недалёка ад вакзала за чыгуначным палатном, у ціхім квартале размясціўся навучальны корпус Другога медыцынскага вучылішча. Заходжу ў аўдыторыю. Уладкоўваюся за сталом ля акна. Чакаю. Праз некалькі хвілін з'яўляюцца дзяўчаты-першакурсніцы ў беласнежных халатах. Шумна рассаджваюцца.

Ад знаёмства з Валькоўскай я чакаю цяпер толькі аднаго: знайсці адказ, чаму ёй, настаўніцы не "касмічнага прадмета" — літаратуры, аддаў сваю любоў, павагу, удзячнасць лётчык-касманаўт У.Кавалёнак, як ёй удалося завалодаць яго пачуццямі. Мільёны тэлегледачоў, відаць, памятаюць інтэрв'ю журналістаў з экіпажам "Саюза-25". На пытанне "Каго б вы хацелі бачыць у гэтыя хвіліны перад стартам у космас?" Уладзімір Васільевіч адказаў: "Маю настаўніцу Ніну Міхайлаўну Валькоўскую".



Ніна Міхайлаўна ўвайшла ў клас ціха. Звыкла апусціла на стол журнал. Бліснула шкло акуляраў, твар кранула адкрытая ўсмешка.

— Сёння мы працягваем вывучэнне творчасці беларускага паэта Аркадзя Куляшова, — сказала нягучна.

Я глядзеў на яе, на карычневую дошку, да якой яна прымацоўвала невялікі партрэт. Глядзеў і ўспамінаў далёкія Цімкавічы, сваю першую настаўніцу Марыю Сцяпанаўну Семяновіч...

А Ніна Міхайлаўна ўжо расказвала аб паэзіі. Гаварыла аб прыгажосці беларускай зямлі, яе непаўторнай прыродзе, аб людзях, якія аддалі сваё жыццё за яе свабоду. Я слухаў, а перад вачыма праплывала шырокае жытняе поле, паўставалі вогненныя малюнкі ваеннага часу. Расказ захопліваў, уражваў, міжволі рабіў саўдзельнікам падзей, перажытых паэтам. Званок, як і заўсёды бывае ў такіх выпадках, прагучаў нечакана. Перапынак. Мы сядзім з Валькоўскай у настаўніцкай. Размова, на шчасце, наладзілася адразу.

— Бацькі? Тата і матуля нарадзіліся на Капыльшчыне ў мястэчку Цімкавічы. Вучыліся разам з Мікалаем Карлавічам Рамаиоўскім (Кузьмой Чорным). На пачатку дваццатых мінулага стагоддзя разам удзельнічалі ў культурна-асветніцкай рабоце. Разам з настаўнікамі ладзілі самадзейныя спектаклі.

У гады часовай акупацыі яны засталіся ў горадзе па заданні Цэнтральнага штаба партызанскага руху. У той дзень, калі раніцай да нас у дом прыйшлі пераапранутыя ў цывільнае фашысцкія агенты, таты дома не было. Агледзелі пакоі, спыталіся, дзе гаспадар, і пайшлі. Бацька працаваў на невялікай тытунёвай фабрыцы. Для нарыхтоўкі сыравіны яму быў выдадзены пропуск, які дазваляў выезд з горада. Гэта было зручна для пастаяннай сувязі з партызанскім атрадам. Калі тата вярнуўся (а ён ездзіў у Рудзенск), мама яму ўсё расказала. Непадалёку ад нас жыла сям'я яшчэ адной сувязной. "Схадзі, маці, даведайся, як у яе справы", — сказаў бацька. Дамоў мама вярнулася ў суправаджэнні агентаў. Бацькоў павезлі ў закрытай чорнай машыне. Пазней мы даведаліся, што ў доме сувязной была засада.

Ніна Міхайлаўна прыпыніла свой расказ, адвяла вочы ў бок расчыненага акна.

— Да гэтага часу ў памяці апошняя сустрэча з маці, — працягвае яна. — Разам з іншымі палоннымі яе вадзілі на работу ў горад. Мама валодала нямецкай мовай, яна да вайны працавала настаўніцай. І калі я прыбягала, яна прасіла вартаўніка мяне прапусціць. Не заўсёды, але такое здаралася. І мы некалькі хвілін былі разам. І на гэты раз матуля ўгаварыла высокага, тоўстага немца з аўтаматам у руках. Сяджу я каля мамы, а яна валасы мне расчасала, гладзіць па галаве. Зірнула на мае пазногці і здзівілася: "Якія яны ў цябе, дачушка, адраслі! Давай зрэжу". Адкуль у яе ножанкі аказаліся — не ведаю, але хавала яна іх пад кофтай. Быў невялікі перапынак, ля нас сядзела немаладая жанчына. Яна і сказала маме: "Схавай ты іх, Марыя Іосіфаўна. Чаго добрага ўбачаць, нездабраваць табе". Мама паслухалася. А жанчына ціхенька шэпча: "Чула, нашы пад Оршай наступаюць?" Мама ўзрадавалася: "Хутка прыйдуць нашы, дачушка!" І пачала цалаваць мяне. У гэты час да нас наблізіўся нямецкі афіцэр. Гаркнуў штосьці вартаўніку. Мама адхіліла мяне, захвалявалася. Раптам бачу — твар хусцінкай закрыла, усхліпвае. Не было такога за ёю раней. Я да яе прытулілася, супакойваю. А яна — ні слова. Потым схамянулася, загаварыла хутка, блытана: "Ідзі, Ніначка! Ідзі, дачушка, слядочак наш жывы". Больш я маму не бачыла. За тры дні да вызвалення Мінска ад фашыстаў яе павезлі ў Трасцянец.

Бабуля не вынесла гора. Злегла і хутка пасля прыходу нашых памерла. Спужалася я: як жа, думаю, жыць буду адна? А мне ў той час дзесяці гадоў не было. Адшукала мяне Амелія Гаўрылаўна Кобызева, сяброўка мамы. Яна ў партызанскім атрадзе была. Прыняла мяне ў сваю сям'ю як родную, вырасціла. А бацьку мы так і не знайшлі. Пасля перамогі, калі да многіх бацькі вярталіся, бегала ўпотай на вакзал, марыла сустрэць тату, пыталася пра яго ў ваенных.

У фае Міністэрства сельскай гаспадаркі ёсць гранітная дошка. Побач з іншымі прозвішчамі загінуўшых высечана: "Міхаіл Рыгоравіч Валькоўскі". Калі было яе адкрыццё, шмат гаварылі пра бацьку. Расказвалі тыя, з кім ён разам працаваў, змагаўся. І гучала для мяне гэта як легенда.

Ніна Міхайлаўна спынілася, потым зноў пачала ўспамінаць.

— Гады ішлі непрыкметна. Скончыла школу, паступіла ва ўніверсітэт, абараніла дыплом. Паехала па размеркаванні ў Крупскі раён. А потым зноў вярнулася ў Мінск.

Яна жыве ў дзевяціпавярховым доме. З яе акна адкрываецца велічная панарама Заводскага раёна сталіцы.

Невялічкая двухпакаёвая кватэра. Абжыты куток. Стэлаж з кнігамі. Стосы вучнёўскіх сшыткаў. Падручнікі па рускай і беларускай літаратуры з каляровымі стужкамі закладак. Пісьмовы прыбор на стале. На кніжнай паліцы альбом з фатаграфіямі былых выхаванцаў.

У Валькоўскай было шмат вучняў. І самая вялікая радасць — атрымліваць ад іх пісьмы. Беражліва захоўваюцца яны ў сямейным архіве Ніны Міхайлаўны. Часта праглядае іх, учытваецца ў словы, напісаныя ў розныя гады дзіцячай, юнацкай і ўжо зусім дарослай рукой.

Пісьмо Машы Мажэйка датаванае 6 верасня 1958 года. "*Дарагая Ніна Міхайлаўна, мы пачалі новы навучальны год. Наша класная цяпер — Валянціна Рыгораўна. Рускую мову і літаратуру выкладае Вера Сямёнаўна. Староста ў класе Назараў*", — паведамляе дзевяцікласніца з Зачысця.

*"Паважаная Ніна Міхайлаўна! Пасля выпускных экзаменаў вырашыў паступаць у горнапрамысловую школу. Адправіў дакументы ў Багародзіцк. Пакуль працую ў калгасе. Чакаю адказу. Але дзе б я ні быў, заўсёды буду з радасцю ўспамінаць Вас і свае школьныя гады. Мы былі недаравальна няўважлівыя да вас, настаўнікаў. Не заўсёды добра ўсведамлялі тое, што неслі і чаго не шкадавалі вы для нас. Дзякуй. Фёдар Зуёнак".*

Пройдуць гады, і Фёдар Зуёнак стане таленавітым інжынерам.

— Цяпер пры сустрэчы са сваімі першымі вучнямі часам губляюся, — усміхаецца Ніна Міхайлаўна. — А тады мае хлопчыкі і дзяўчынкі здаваліся мне такімі бездапаможнымі. Па-сапраўднаму настаўніцай я сябе адчула, калі прайшло шмат гадоў. Калі больш стала атрымліваць вось такіх пісьмаў.

А вось свежыя паштоўкі. Аўтары іх — выпускнікі Другога медыцынскага вучылішча, дзе выкладае цяпер Ніна Міхайлаўна. Шмат іх, гэтых пісьмаў. І ва ўсіх словы ўдзячнасці, падзякі.

Здаўна настаўніка параўноўваюць з сейбітам. Толькі ўсходаў яму даводзіцца чакаць доўга. Але тым больш радасна, калі зярняты праз шмат гадоў прарастаюць добрымі і слаўнымі справамі.

Пісьмы, паштоўкі, тэлеграмы. З самых розных месц ідуць яны ў гэтую кватэру. Адно пісьмо асабліва дарагое Ніне Міхайлаўне. Прыйшло яно з Байканура ад Уладзіміра Кавалёнка.

*"Да старту засталося два дні. Мае сябры адправяць гэтае пісьмо з касмадрома ўжо тады, калі мой "Саюз" пачне адлічваць віткі вакол планеты Зямля,* — паведамляе Уладзімір. — *Аднаму мне вядома, што Вы зрабілі, каб сёння я быў на касмадроме. І цяпер я зноў і зноў прыношу Вам, Ніна Міхайлаўна, сваю шчырую ўдзячнасць за тое, што выклікалі ў маёй душы гэтую неадольную цягу да пазнання прыгожага, якая не пакіне мяне ніколі".*

Яна прачнулася рана. З расчыненага акна цягнула халадком. У пакой урывалася бойкае вераб'інае шчабятанне. Сонца яшчэ не ўзышло, але на вуліцы было ўжо светла.

Нечакана ў акно ўварваўся вецер, ляпнула фортка на кухні. Сыпануў праліўны дождж. За яго шумам адразу і не пачула, як у другім пакоі загаварыла радыё. Ніна Міхайлаўна ўключыла гучней — перадавалі апошнія паведамленні.

— Інтэрнацыянальны экіпаж у складзе лётчыкаў-касманаўтаў Уладзіміра Кавалёнка, бортінжынера Аляксандра Іванчэнкава, Пятра Клімука і касманаўта-даследчыка, грамадзяніна Польскай Народнай Рэспублікі Міраслава Гермашэўскага пачаў свой касмічны дзень на борце арбітальнага комплексу "Салют-6"—"Саюз-29"—"Саюз 30", — гаварыў дыктар.

Новы касмічны дзень яе вучня. Шмат іх яшчэ наперадзе.

Лівень спыніўся гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Зноў стала ціха. Толькі яшчэ мацней загаманілі вераб'і на дрэвах. З-за хмаркі паўставала яркае сонца. Выйшла на балкон. Неба паступова ачышчалася. Дыхалася лёгка і прыемна. Не заўважыла, як падышоў муж. Пара было будзіць дачку. Сёння, у нядзелю, яны сям'ёю едуць у Трасцянец, на магілу яе бацькоў.

Прайшло трыццаць тры гады, як я занатаваў апошнія словы настаўніцы касманаўта Уладзіміра Кавалёнка.

Днямі наша сустрэча прадоўжылася ў тым жа доме на Партызанскім праспекце. У той жа маленькай кааператыўнай "паўтарачцы".

— Трыццаць год мінула, як не стала майго Аляксандра Генадзевіча.

— ?

— Позна вечарам вяртаўся з патрулявання ў дабраахвотнай народнай дружыне. Да свайго дома не дайшоў лічаныя метры. У падземным пераходзе, каля нархоза, п'яныя нелюдзі забілі майго Шанько. Злачынства засталося невыкрытым. Адной давялося падымаць дачку. Яны з мужам жывуць у гэтай кватэры. Цеснавата, але...

— Раней вы казалі, што Аляксандр Генадзевіч працаваў на трактарным заводзе канструктарам у спецыяльным тэхналагічным бюро. Няўжо завод не дапамог з кватэрай?

— Ведаеце, цяжка сёння пра гэта казаць. Не хочацца варушыць мінулае. Яно глыбока ўнутры засталося. На ўсё жыццё. Мне ўжо семдзясят сем стукнула. Як хочаце, так і паступайце. Калі я вярнулася з Крупскага раёна на працу ў Мінск, гадоў праз дзесяць дабілася сустрэчы з кіраўніком сельскагаспадарчай галіны. (Да вайны тата працаваў у Наркамземе.) Размаўлялі мы, седзячы ў вялікім кабінеце твар да твару. Казала пра свой лёс. Пра тату, які зрабіў уклад у развіццё галіны. Ён не збег у тыл. Змагаўся з ворагам, як і матуля. Ведаеце, ён нахіліўся над сталом бліжэй да майго твару ды нягучна прашаптаў: "Іх няма. Яны мёртвыя".

Больш ніколі нікуды я не звярталася. Я саромелася каму-небудзь аб тым выпадку казаць. Я настаўніца. Выхавацель. Мой абавязак — несці людзям светлае. Чыстае. Мяне так выхоўвалі тата з мамай, затым другая маці Амелія Гаўрылаўна. Я задаволена сваім жыццёвым шляхам. Мне ёсць што ўспомніць. Я ўдзячна маім былым вучням, што не забываюць, наведваюць. Што яны сталі годнымі, патрэбнымі грамадству людзьмі. Валодзя Кавалёнак калі бываў у Мінску, часта завітваў да нас.

— У гэтую маленькую кватэру?

— Так. Вы раней чыталі пісьмо з Зачысця, там аб старасце майго былога класа Назараве ўпаміналася. Павел адпрацаваў у сістэме НДІ Саўміна, Дзяржплане, Міністэрстве эканомікі больш за трыццаць гадоў. Напярэдадні майго сямідзесяцігоддзя завітаў. Нашай гамонцы не было супынку.

Вы адчуваеце, мне цяжка размаўляць. Хвароба. Перанесла інсульт. Але не губляю аптымізму. Кожнаму новаму дню, кожнаму ўсходу сонца рада. Час змяніўся ў краіне. І не ў лепшы бок. Вельмі хвалюе лёс нашай моладзі. Як дапамагчы ёй знайсці патрэбны накірунак? Каб новае пакаленне не растрэсла набытыя продкамі каштоўнасці? Каб захоўвала любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да роднага куточка, у якім чалавек з'явіўся на свет? Я ганаруся сваімі выхаванцамі. Успаміны пра іх дапамагаюць адольваць хваробу.

Валодя Кавалёнак 3 сакавіка адзначыў сваё сямідзесяцігоддзе. Як хутка бяжыць час...

**Уладзімір МАРОЗ.**

*Мінск.*

РЕЗОНАНС

## *Что толкает людей на дикие поступки?*

Удивляет пафос автора статьи "Налетчицы", опубликованной в минувшем номере. Так, молодые дамы кривлялись, танцевали в церкви... Они поступили очень дурно, но эти девушки к нам не с Луны свалились, они росли, учились в стране, где попирались и попираются права, свобода личности. Где Человека любого ранга легко превращали в лагерную пыль. Церковь отвергалась, служители морально и физически уничтожались, и теперь мы пожинаем плоды. Нет веры, нет уважения к человеку и нет пиетета к Церкви.

Церковь проповедует милосердие, в то время как милиция избивает невинных людей. Молодых девушек унижали в автозаках, а служители церкви молчали. Или они не граждане страны, в которой живут?

Сегодня в тюрьме умирает Сергей Коваленко, отстаивая свои убеждения, свои права... Почему церковь не проявит к нему милосердия, не приходит к нему на помощь?

Так, молодых женщин, которые пошли на скандальный поступок в Москве, мне искренне жаль — они родились в стране, где таким **диким** способом нужно отстаивать свои убеждения.

С уважением к "Народной Воле" —

**Ольга Ивановна ВАРАКСА, пенсионерка, сотни раз испытавшая оскорбления и унижения в нашей стране.**

ПАТЛУМАЧЦЕ!

## *Не адключылі, але...*

***Не магу зразумець, што зрабілася з ацяпленнем у кватэрах. Не ведаю, як у каго, а ў мяне дома холадна, і батарэі ледзь-ледзь грэюць. У ЖЭСе адказалі, што так па ўсім горадзе, што такі загад. Няўжо ў сакавіку ўжо ацяпленне адключылі?***

**Галіна Шыкуць, г.Мінск.**

Сістэмы ацяплення ў Мінску пераведзены ў рэжым працэплівання. Аб гэтым паведаміў журналістам начальнік аддзела энергетыкі Мінгарвыканкама **Анатоль Лаўнічук.** Гэта звязана з тым, што тэмпература вонкавага паветра на працягу бліжэйшага часу будзе плюсавай, і толькі праз тыдзень чакаецца яе нязначнае паніжэнне.

Адначасова мінскія ўлады прапанавалі гаспадарам адміністрацыйных і прамысловых будынкаў адключаць ацяпленне ў выхадныя дні, у жыллёвым фондзе ўжо зараз адключаецца цяпло ў месцах агульнага карыстання (напрыклад, у пад'ездах).

БЕЗ КОММЕНТАРИЕВ

# Потопали, похлопали...

*Уважаемый Иосиф Павлович!*

*Меня побудило обратиться к Вам какое-то нездоровое чувство затишья в последнее время. Если это затишье перед бурей — понятно. Если это затишье на болоте перед заморозками — плохо.*

*Прошло больше года после последних президентских выборов. Потопали, похлопали (спасибо и за это) — и уснули. Один Сергей Коваленко, при всем моем к нему уважении, своим именем и образом не в состоянии разбудить нас, "памяркоўных". Кто-то залег на дно, кто-то "свалил" из страны, кто-то в тюрьме... А кому-то для счастья и чарки хватит. Вот и грустно. Неужели никакого просвета нет?..*

**Леонид НЕМЦОВ.**

*г.п.Ждановичи.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 САКАВІКА 2012 г.

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Валерию Щукину — 70!

*22 марта известный правозащитник, депутат Верховного Совета Беларуси 13-го созыва, капитан второго ранга в отставке Валерий Щукин отмечает свое 70-летие.*



В жизни Валерия Алексеевича бывали дни рождения, которые он праздновал за решеткой. Средства массовой информации называют Щукина чемпионом по отсидкам.

"На мой взгляд, данная информация нуждается в уточнении, — *сказал "Народной Воле" Валерий Алексеевич*. — Это как в спорте. Рекорды чемпионов мира и олимпиад 60-х годов сегодня давно побиты. Тем не менее они остались в истории рекордсменами. Так и я: чемпионом по отсидкам я был в конце 90-х. Сегодня, полтора десятилетия спустя, передовое подросшее поколение отсидело значительно больше. А учитывая ненависть правящего режима к белорусской молодежи, "рекорды" их будут расти и расти.

А вообще, за время своих многочисленных отсидок за колючей проволокой я дважды встречал Новый год, День Военно-Морского флота, День рождения... Не говоря уже о других семейных и государственных датах".

*Кстати, этот день рождения Валерий Алексеевич с друзьями и близкими намерен отпраздновать подальше от ока спецслужб.*

*Можно ли назвать Щукина счастливым человеком?*

"Я был женат один раз, — *рассуждает о простых составляющих человеческого счастья Валерий Алексеевич.* — А некоторые — пять. Как определить, кто из нас более счастлив?

Я вырастил двоих детей, построил дом, у меня семеро внуков. Вроде бы сделал все, что должен сделать настоящий мужчина.

Как политик могу гордиться тем, что имею некоторую известность. Да, были времена, когда меня грозились растерзать. А сейчас ко мне подходят и говорят: "Вы Щукин? Можно пожать вашу руку?" Это счастье или нет, когда ты нужен людям?..

Сегодня многие пишут мемуары. И мне есть о чем написать, есть что вспомнить. У меня есть куча разных бумаг, записей. Но займусь мемуарами, когда окончательно силы сдадут, когда не смогу больше ничего делать. А пока мне не до этого..."

Здоровья Вам, Валерий Алексеевич, и семь футов под килем!

**Марина КОКТЫШ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## У Берліне ўсталююць помнік ахвярам палітычнага рэжыму ў Беларусі

*Урачыстасць пройдзе 27 сакавіка ў "Трэптаў парку", што насупраць беларускай амбасады.*

Пра гэта паведаміў інфармацыйны рэсурс беларускай супольнасці ў Германіі "Берлінскі тыднёвік". Помнік у гонар пацярпелых ад палітычных рэпрэсій у Беларусі будзе мець выгляд мемарыяльнай лавы. Як чакаецца, ва ўрачыстасці прыме ўдзел былы міністр замежных спраў Германіі Маркус Мекаль.

ЧУЛІ?

## Як беларусы зараблялі на эміграцыі

*На працягу студзеня і лютага гэтага года з просьбай аб прадастаўленні прытулку ў Нарвегіі звярнулася 75 грамадзян Беларусі. У мінулым годзе на працягу аналагічнага часу мела месца ўсяго толькі адна просьба. 55 чалавек з 75 тых, хто звярнуўся, — выхадцы з Гродна. Большай часткай гэта маладыя мужчыны ва ўзросце ад 20 да 30 гадоў.*

Іміграцыйная паліцыя і Дырэктарат па справах замежнікаў лічаць, што большасць беларусаў з'яўляюцца фальшывымі бежанцамі, якія хочуць атрымаць грошы за свой добраахвотны ад'езд на радзіму, паведамляе russisk.org. Справа ў тым, што грамадзяне былога СССР, якім адмоўлена ў прадастаўленні віду на жыхарства ў Нарвегіі, могуць атрымаць 20 тысяч крон у выпадку згоды на добраахвотнае вяртанне дадому. Акрамя таго, такім "адмоўнікам" забяспечваецца аплата білетаў на радзіму.

*"Відавочна, што ўсё гэта добра арганізаваная акцыя, мы глядзім на яе як на магчымасць зарабіць на сістэме. Акрамя таго, некаторыя з просьбітаў ужо маюць крымінальнае мінулае ў Нарвегіі",* — сцвярджае кіраўнік аднаго з дэпартаментаў іміграцыйнай паліцыі Элі Фрыюрэт.

Дырэктарат па справах замежнікаў у цяперашні час вырашыў часова спыніць выплату грошай беларусам на вяртанне дадому.

З-ЗА КРАТАЎ

## Вольга БАНДАРЭНКА: «Лекі для мужа вязу кілаграмамі»

Дзмітрый Бандарэнка знаходзіцца ў медчасці. Дыягназ: рэактыўны артрыт. Жонка палітвязня Вольга Бандарэнка больш за ўсё непакоіцца за здароўе Дзмітрыя. *"Напрыканцы лютага Дзіма зноў трапіў у медчасць. Спачатку лячылі прастуду, потым праблемы з ціскам — 160 на 95. А цяпер вось патэлефанаваў і сказаў, што артрыт з левай нагі перакінуўся на правую. Гэта ж вельмі балюча. Але сказаў мне, што там лекаванне лепшае, чым у турме КДБ. Не так адбіваецца на печані. Я яму туды лекі вязу кілаграмамі. Ён жа пасля аперацыі на спіне. Цяпер ёсць праблемы. Казаў мне, што калі пастаіць крыху, то потым адчувае, што ногі робяцца ватныя",* — сказала Вольга Бандарэнка "Народнай Волі".

1 лютага Дзмітрый Бандарэнка падаў прашэнне аб памілаванні. Прайшло амаль два месяцы, а палітвязня так і не вызвалілі. Раней яму адмовілі ва ўмоўна-датэрміновым вызваленні. Сёлета 20 снежня Дзмітрый Бандарэнка, згодна з прысудам, мусіць выйсці на волю. Палітвязень мае права на тры тэлефанаванні ў месяц, і ён карыстаецца гэтым правам.

## Наста ПАЛАЖАНКА: «На Зміцера ціснуць, бо ціснуць на ўсіх палітвязняў»

Лідар "Маладога фронту" (зарэгістраваны ў Чэхіі) Зміцер Дашкевіч амаль два тыдні знаходзіцца ў штрафным ізалятары Глыбоцкай калоніі. Яго ізалявалі на месяц, прычым зрабілі гэта адразу пасля таго, як палітвязень адбыў 10 сутак ШІЗА. Што стала прычынай ізаляцыі? Наста Палажанка так пракаментавала гэта "Народнай Волі": *"А цяпер наступіў такі момант, калі ўжо нікому і не тлумачаць прычыны. Пакаралі і ўсё. Відавочна, што гэта звязана з агульнай палітыкай у дачыненні да палітвязняў. Мікалай Статкевіч знаходзіцца ў крытай турме. Андрэй Саннікаў доўгі час быў у ізаляцыі... Паколькі Зміцер у ізалятары, то ён не мае права на перадачу і не атрымлівае лістоў. Калі б была такая магчымасць, то яго б перавялі ў "крытку", але даводзіцца ім рабіць толькі тое, што могуць. І ўсё гэта робіцца яшчэ і для таго, каб падаў прашэнне аб памілаванні. Ім мала таго, што Саннікаў і Бандарэнка напісалі, трэба, каб усе. Гэта быў такі своеасаблівы бонус".*

Наста Палажанка паведаміла, што няма ніякіх зрухаў у справе перасылкі пашпарта Дашкевіча з КДБ яго ўладальніку. *"Пачакаем яшчэ. Усе неабходныя заявы напісалі і накіравалі",* — сказала нявеста Зміцера Дашкевіча Наста Палажанка.

**Любоў ЛУНЁВА.**

АСОБА

## Эрнст САБІЛА: «Ты павінен жыць!»



Сёння пастару адзінай беларускамоўнай Евангельскай грамады ў краіне, былому прэсвітару Евангельскай царквы ў Мінску Эрнсту Сабіле спаўняецца 80 гадоў... Напярэдадні карэспандэнт "Народнай Волі" сустрэўся з ім у Асіповічах, дзе спадар Эрнст ужо каторы год узводзіць Евангельскі храм — з Божаю дапамогаю, мазольнымі рукамі, на свае асабістыя сродкі...

Мы ехалі, каб сустрэцца з легендарным чалавекам, які ўсё сваё жыццё прысвяціў Богу, царкве і адраджэнню беларускасці на нашай зямлі. Мы ехалі павіншаваць спадара Эрнста з 80-годдзем і запісаць ягоны ўспамін пра пакутны шлях чалавека да веры, Бога і справядлівасці, які распасцёрся ад самога маленства і да сталага веку. Было віншаванне, і была размова... Але перадусім закранулі самае балючае, што вярэдзіць цяпер сэрцы ўсіх сумленных людзей Беларусі, — лёс Сяргея Каваленкі... Пастар Эрнст не мог абысці-абмінуць драму, якая адбываецца на вачах мільёнаў беларусаў. Сам ён напярэдадні наведаў Сяргея ў пастарунку, меў з ім гаворку — шчырую, як і прынята паміж духоўнымі людзьмі-хрысціянамі, што спавядаюць аднаго Бога, радзімныя і агульначалавечыя каштоўнасці. Гэта было не столькі пастырскае ўкленчванне, колькі размова сто разоў бітага жыццём чалавека з нязломным у сваіх перакананнях героем-адзіночкай.

— Што вы казалі, спадар Эрнст, Сяргею, які гэтулькі часу трымае галадоўку і не збіраецца спыняць яе — нават коштам свайго жыцця?.. Ці ўспрымаў вашы пастырскія словы адэкватна гэты мужны і нязломны мужчына? У вас жа шмат агульнага — у змаганні, у пакутнай цярплівасці, у непахіснасці, калі справа датычна Веры, Радзімы, справядлівасці...

— Прасіў і дагэтуль малюся, каб спыніў Сяргей галадоўку. Казаў і кажу: "Ты патрэбны нам і ўсёй Беларусі жывым, Сяргей-пакутнік, сын Божы... Змарнаваць сябе, пайсці на смерць дзеля ідэі, веры і справядлівасці — можна, але не варта. Кожны з нас пакліканы ў гэты свет, каб выканаць волю Госпада і пакінуць пасля сябе на зямлі нешта вартае Яго. Але не такім чынам: не ў ахвярнасці, а ў змаганні за Боскае — прызначэнне чалавека..." Прыкладна гэта даводзіў. А яшчэ казаў яму: "Для цябе, як і для мяне, бел-чырвона-белы сцяг — не толькі сімвал нашай беларускасці, але і веры нашай.. Дык будзем вартыя сцягу, не дамо антыхрыстам падстаў глуміцца ні над сабою, ні над святыняю нашай — трэба жыць і змагацца, змагацца і жыць!"

Я сказаў Сяргею, што тойчас — тут і зараз — гатовы абгарнуцца нашым гістарычным сцягам проста за варотамі пастарунка і прайсці так па любой вуліцы ці плошчы Мінска. І няхай схопяць мяне апрычнікі, няхай кінуць у турму... Але з гледзішча свайго веку і выпакутаванага за 50 год змагання вопыту — не раю, бо гэта не падзвігне астатніх, не запаліць у іх сэрцах прагу да дзеяння, да супрацівү. Бо такі век — поўны хцівасці, бязвер'я, здрады, ілжывасці... Але варта памятаць тым палітыкам і тым дзяржымордам, якія ідуць супроць нашых святыняў, што Гасподзь хоць і ўселітасцівы, але на судзе сваім спытае з кожнага — і з тых, хто жыў ды трымаўся яго запаведзяў, змагаўся за ідэалы светлыя і праведныя; і з тых, хто гнюсіў веру нашу, святыні нашы... І кожнаму адплаціцца па заслугах яго.

Міжволі паверыш 80-гадоваму пастыру, які сам прайшоў праз галгофу турмаў, лагераў, а з тым — праз здзекі, прыніжэнні, запужванне, праследаванні, цкаванні... Але не зламаўся Эрнст Сабіла — працягвае Богам акрэсленую для яго справу. Мог бы пахіснуцца ў веры, мог бы прыняць галадоўку... Не, за веру трэба змагацца, а жыццё толькі ў руках Госпада.

Летам 1951 года Эрнст, першакурснік Мінскага медінстытута, быў арыштаваны МГБ і ўвязнены ў следчай турме "амерыканцы". Праз два месяцы асуджаны да расстрэлу паводле артыкула 72-б КК БССР у фармулёўцы суда за "антысавецкую агітацыю на падставе рэлігійных і нацыянальных забабонаў". Але праз нейкі час пакаранне было заменена 25-гадовым тэрмінам зняволення ў лагерах.

"*Уся гэтая судзейска-гэбісцкая зграя ненавідзела мяне лютай нянавісцю,* — успамінае спадар Эрнст. — *Бо ў мяне не было за што зачапіцца. Яны не разумелі — як так, з сялянаў, партызанаў, і пры гэтым агітаваў насуперак іхняй ідэалогіі. Я не ўпісваўся ў іхнія схемы, і гэтым выклікаў яшчэ большую нянавісць. Суддзя быў гатовы выканаць прысуд проста ў зале пасяджэнняў*. Але кожнаму на судзе Божым прыйдзецца прыняць па заслугах сваіх. Не схаваюцца ні суддзя, ні пракурор..."

Па вяртанні ў Мінск і да гэтага часу з галавы не выходзяць словы пастара, звернутыя не толькі да Сяргея Каваленкі, але да ўсіх людзей добрай волі: *"Не ў самаахвярнасці сэнс — у змаганні за лепшую долю, за веру сваю і Радзіму... Ты павінен жыць дзеля гэтага, Сяргей Каваленка!"*

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

РЭГІЁНЫ

## Будзем са слімакамі

*У Віцебскай вобласці прамысловыя запасы вінаграднага слімака складаюць каля 200 тон.*

Нельга сказаць, што навіна аб багацці Віцебскай вобласці на слімакоў стала для прыродаахоўнікаў нечаканасцю. Даўно вядома, што больш за ўсё слімакоў у Глыбоцкім, Ушацкім і Чашніцкім раёнах. Раённыя ўлады ў адпаведнасці з пастановай урада могуць выстаўляць на аўкцыёны права нарыхтоўкі гэтых малюскаў.

Дарэчы, штогод людзі спажываюць каля 100 тысяч тон вінаградных слімакоў. Самымі смачнымі лічацца слімакі, якія важаць 20—25 грамаў. На кілаграм прыходзіцца каля 40—50 малюскаў.

## У Магілёве пачнуць выпускаць памперсы

*Чакаецца, што завод штогод будзе выпускаць каля 112 мільёнаў неабходных гігіенічных сродкаў.*

Кіраўніцтва прадпрыемства мае вялікія планы — не толькі забяспечыць усю краіну, а таксама экспартаваць прадукт.

Калі верыць планам, то айчынны памперс будзе якасным і танным. Першыя партыі будуць выпушчаны ў маі.

## Кантрабанда шчанюкоў

*Жыхарка Брэста хацела назаконна прывезці ў Беларусь 50 шчанюкоў розных парод.*

Маленькіх сабачак, якім не споўнілася 1,5 месяца, памежнікі знайшлі ў сямі гаспадарчых сумках, што знаходзіліся ў машыне 44-гадовай жыхаркі Брэста. Жанчына хацела нелегальна ўвезці жывёл у Беларусь праз пункт пропуску "Варшаўскі мост". Ніякіх дакументаў на сабак дама не мела. Хутчэй за ўсё, сабачак везлі на продаж. Пакуль жывёл канфіскавалі.

## Бамжы ледзьве не спалілі дом

*Пажар у гомельскай шматпавярхоўцы пачаўся з-за таго, што бяздомныя палілі ў падвале?*

Пажар пачаўся ўвечары, калі большасць жыльцоў дома ўжо збіралася класціся спаць. Ачаг узгарання знаходзіўся ў падвале. Там начуюць бамжы. Відавочна, пажар пачаўся з-за неасцярожнага абыходжання з агнём. У выніку загінуў адзін з бяздомных. Другі быў выратаваны і дастаўлены ў шпіталь з прыкметамі алкагольнага ап'янення і атручвання прадуктамі гарэння.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

## Расія — акно ў Еўропу для беларускай апазіцыі

Спіс невыязных за мяжу беларускіх апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх актывістаў ізноў пашырыўся. У гэтым месяцы стала вядома, што забаронены выезд Анатолю Лябедзьку, Віктару Карняенку, Сяргею Калякіну, Валянціну Стэфановічу, Алегу Гулаку, Гары Паганяйлу, Жанне Літвіной, Міхаілу Янчуку, Андрэю Дынько... Даходзіць да абсурду! Апошні, напрыклад, быў уключаны ў спіс невыязных быццам бы за "ўхіленне ад яўкі на мерапрыемствы па прызыве". Даведку пра гэта яму выдалі ў падраздзяленні па грамадзянстве і міграцыі. Але Андрэй Дынько — лейтэнант запасу і не можа быць прызваны на службу.

Хтосьці з гэтага спісу даведваецца, што яму нельга выязджаць за мяжу з-за пазык, якіх на самай справе няма. Тая ж Жанна Літвіна — "вінаватая па справе аб банкруцтве".

У мінулыя выхадныя спіс папоўніў і былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, які накіроўваўся ў Вільнюс, але вымушаны быў вярнуцца назад і накіравацца ў Літву праз Расію.

Дарэчы, тыя з "чорнага" спісу, хто хоча патрапіць у Еўропу, без цяжкасці гэта робяць.

### ДАРЭЧЫ

Мы падлічылі, на якую суму стала даражэйшай дарога з Мінска ў Вільнюс для невыязных.

Танней за ўсё ехаць у сталіцу Літвы з Мінска на цягніку. Квіток у адзін бок у агульным вагоне каштуе 84 тысячы рублёў, у плацкартным — 113 тысяч. Калі ж ехаць праз Расію, то толькі за білет да Масквы ў плацкартным вагоне трэба аддаць 311 тысяч (купэ — 620.000). Квіток на аўтобус з Мінска ў Маскву "пацягне" на 283.500 рублёў. Пералёт з Белакаменнай у Вільнюс каштуе 104 еўра, на аўтобусе білет з Масквы можна заказаць у Мінску за 712.800 рублёў.

Як бачым, ёсць розніца. Але, скажам, калі нехта хоча сэканоміць грошы, то даехаць да Масквы можна і зусім танна — на электрычках праз Оршу і Смаленск. Да Оршы квіток каштуе 10.900 рублёў, Орша—Смаленск — 6200. А са Смаленска да Масквы на цягніку ў агульным вагоне — 350 расійскіх рублёў (каля 12 долараў альбо 97 тысяч беларускіх рублёў). Такім чынам, эканом-класам у расійскую сталіцу можна патрапіць усяго за 115 тысяч рублёў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Надвор'е: чаго чакаем?

Сёння, 20 сакавіка, у Беларусі чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. І ноччу, і днём — ападкі (дождж, мокры снег). Тэмпература паветра: ноччу мінус 3 — плюс 3°C, днём 2—8°C вышэй за нуль, па паўднёвым захадзе плюс 9—12°C.

21 сакавіка на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, па поўначы краіны — з мокрым снегам. Тэмпература паветра: ноччу 0 — плюс 7°C, па поўначы пры праясненнях да мінус 3°C; днём 3—9°C вышэй за нуль, па паўднёвым захадзе плюс 10—13°C.

22 сакавіка таксама кароткачасовыя дажджы. Ноччу 0 — плюс 7°C, днём 4—11°C вышэй за нуль, па захадзе плюс 12—15°C.

ВЫСТАВКА

## Художник. И его семья

Однажды я услышала такую формулу: если художнику не хочется писать свою жену, подругу, музу, то у него большие проблемы. Не в семье, нет. В творчестве. Близкого человека не то что надо писать, нет — его портрет слагается "навзрыд", сам собой, он из души на холст просто рвется.

Народный художник **Леонид Дмитриевич Щемелев** написал, наверное, сотню портретов своей супруги Светланы Николаевны. Можно сказать, благодаря мужу она проживает две жизни: свою физическую, естественную, и вторую — на холстах мужа. И если первая полна забот и треволнений, так как Светлана Николаевна настоящая хозяйка и глава семьи, которая охраняет своего великого мужа-художника от быта, от суеты, от "мусора" повседневности, то вторая, изобразительная, если можно так сказать, судьба Светланы Щемелевой — торжественна и по-королевски неприкосновенна. Всегда цветы, всегда восторг, всегда поклонение.

Вообще, у Леонида Щемелева целая галерея семейных портретов: естественно, трех любимых дочек — Людочки, Маргариты, Анастасии, сына Геннадия, внуков, правнуков, невестки. Его большая семья уже навсегда останется в истории белорусского изобразительного искусства, так как навсегда в нем останется имя Щемелева, маститого художника, большого белорусского живописца.

В Городской галерее имени Щемелева — какой еще художник при жизни удостоился такого дара, такого уважения от города, как открытие государственной галереи его имени? — 20 марта открывается выставка Щемелева "Моя семья".

Леониду Дмитриевичу Щемелеву через год исполнится 90 лет. Его жизнь и творчество — это, несомненно, достояние нашей республики. Мне очень хотелось бы написать о его картинах убедительно и проникновенно. Но для этого надо как минимум обладать талантом, равным ему, мастеру. Я таким даром, понятное дело, не обладаю. Я просто восхищаюсь художником и его картинами...

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Цуд у пер'і...



Уладзімір Гуркін — былы афіцэр. І калі б не Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, калі б не Перабудова, то, мусіць, даслужыўся б ужо да генерала. Але ляснуўся СССР, ляснуўся камунізм, а разам з ім і ваенная кар'ера маладога чалавека. Толькі не шкадуе былы маёр, што так усё атрымалася.

Імперыя развалілася, але якія перспектывы адкрыліся для маладых і энергічных, загартаваных воінскай службай! Толькі не ляную́ся, паварочвайся...

У 1990-х многія кінуліся ў чаўночную камерцыю: адны дзеля "кароткіх" грошай — трэба было выжываць; іншыя — каб скалаціць хоць які капітал і пачаць сур'ёзны бізнес. Шалёныя дзевяностыя ўздымалі на грэбень поспеху адных, балюча шпурлялі вобзем другіх.

Уладзімір не з баязлівага дзясятка, але рэпутацыяй даражыў — афіцэрскі гонар даражэй за ўсё... Працаваў шмат, да знямогі, так, што іншым разам хацелася кінуць усё, заняцца якім таксаваннем. Але пакрысе справы пайшлі ўгору — дапамагла ўсё тая ж упартасць, воінская загартоўка. Неўзабаве адкрыў невялічкую краму, потым другую, трэцюю...

Мясцовыя людзі, роўна як і раённыя ўлады, угледзелі ў ім чалавека прыстойнага, адказнага і не сквапнага, як некаторыя з ліку "новых беларусаў". Словам, жыццё і прыспешвала, і прыносіла задавальненне.

...Рашэнне адкрыць страусіную ферму, ды не толькі страусіную, а нешта кшталту маленькага запаведніка з рознай жыўнасцю, ніяк не назавеш выпадковым. Яшчэ ў маленстве Уладзімір, як кажуць, няроўна дыхаў да братоў нашых меншых, асабліва да коней. Гатовы быў важдацца з імі ўвесь вольны час. Гэта пасля прыйшло разуменне, што выхаванне праз любоў да ўсяго жывога — можа, самае эфектыўнае з усяго выхаваўчага арсеналу. А тут дайшлі чуткі, што ў Вясеі (непадалёк ад Слуцка) быццам спрабавалі разводзіць страусаў, але нічога не атрымалася... А вось у Расіі, ва Украіне гэтым на ўсю моц займаюцца. Там бізнес страусіны, кажуць, паспяховы. То чым беларусы горшыя?..

Карацей, ідэя са страусамі цалкам завалодала Уладзімірам Гуркіным. Ведаючы ўпраўнасць, дзелавую хватку бізнесмена, раённыя ўлады пайшлі насустрач — выдзелілі вялікі пляц зямлі ў вёсцы Лесішча. Неўзабаве з'явіліся вальеры і афрыканскія страусы. Далей больш — качкі, гусі, куры, парсюкі, козы, коні, нават горны вінтарогі казёл Барыска... І пацягнуўся народ у Лесішча, каб падзівіцца на ўвесь гэты жывёльны гармідар. Пакрысе ферма набыла выгляд агraэкасядзібы. Сюды прыязджаюць экскурсійныя групы, асабліва — як і марыў Уладзімір — часта наведваюцца дзеці, напрыклад, з таго ж Слуцкага дзіцячага рэабілітацыйнага цэнтра. Тры гады таму мне давялося назіраць, з якім захапленнем тыя дзеці, абмежаваныя ў сваіх фізічных магчымасцях, падкормліваюць сенам ды аўсом жарабятак, коз і баранчыкаў. Галоўнае, тут усё дазваляецца — можна верхам пакатацца, можна зайсці ў вальер, можна страуса пакратаць і нават пагладзіць. Праўда, страусы дужа ахвочыя да бліскучых прадметаў — могуць і гузікі праглынуць, і ў акуляры клацнуць. Такое здараецца, затое колькі захаплення ў вачах малечы...

Цяпер на ферме ля сарака афрыканскіх страусаў. А неўзабаве будзе яшчэ болей. Значыцца, варта падумаць і пра камерцыйны бок справы: некуды ж трэба збываць страусіныя яйкі, мяса і пер'е... У Слуцку пакуль няма такіх рэстарацый, дзе б гатавалі далікатэсныя стравы са страусяціны. Але і гэта будзе выпраўлена, бо на ферме плануецца адкрыць свой рэстаранчык. Ва ўсялякім разе свая крама ўжо маецца. І ў ёй можна набыць не толькі ўпрыгожаны страусінымі пер'ямі капялюш, але і заказаць яечню ці там варанае страусінае яйка. Вось толькі варыцца яно аж 75 хвілін. Не кожны вытрывае столькі чакаць...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**
**Фота аўтара.**




## Паводка: спецыялісты раяць

Падчас паводкі жыхарам падтопленых раёнаў неабходна ваду з калодзежаў перад ужываннем кіпяціць. А яшчэ лепей — выкарыстоўваць бутляваную ваду. Такія рэкамендацыі даюць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

Падчас паводкі адбываецца масавае забруджванне вады ў студнях і свідравінах брудам з ферм, ачышчальных збудаванняў, звалак, гаспадарчых двароў, туалетаў, таму ў значнай меры ўзрастае рызыка заражэння чалавека інфекцыйнымі і паразітарнымі захворваннямі, нагадвае РЦГЭіГЗ.

Спецыялісты таксама не рэкамендуюць выкарыстоўваць прадукты, якія падмоклі ад паводкавых вод. *"Гародніну і садавіну перад ужываннем неабходна старанна прамыць бутляванай альбо кіпячонай вадой, абліць кіпенем",* — раяць спецыялісты цэнтра.

У выпадку ўзнікнення пагрозы падтаплення трэба зрабіць запас бутляванай вады, прадуктаў харчавання з працяглымі тэрмінамі прыдатнасці, размясціць іх як мага вышэй у месцах, не даступных для вады і грызуноў. Грызуны і іншыя дробныя жывёлы могуць быць пераносчыкамі многіх захворванняў. Ратуючыся ад паводкі, няпрошаныя госці нярэдка накіроўваюцца ў жылыя дамы і пабудовы. *"Каб абараніць сваё жыллё ад іх пранікнення, варта прыбраць з гаспадарчых пабудоў, падвалаў і кладовак непатрэбную тару, мэблю і рыззё. Неабходна таксама заладзіць адтуліны і шчыліны ў гаспадарчых і жылых памяшканнях, правесці працы па знішчэнні грызуноў",* — адзначылі ў цэнтры.




ПАМЯТЬ

# Беларусь не забудет казахских героев



*Я держу в руках книгу под названием "Незабытые имена". Она вышла в Минске под редакцией Чрезвычайного и Полномочного Посла Казахстана в Республике Беларусь* ***Анатолия Смирнова*** *(на фото слева). И это не случайно. Вот уже несколько лет дипломаты дружественной нам страны продолжают поиск имен и захоронений тех воинов, которые в годы Великой Отечественной войны были призваны из Казахской ССР и погибли на территории Беларуси.*

Не оставлены без внимания и те, кто родился и отдал Казахстану много лет, кто в годы войны громил врага на разных фронтах, но по воле судьбы теперь проживает тут, на нашей белорусской земле. Среди таких есть люди, которыми действительно могут гордиться все народы, внесшие немалый вклад в разгром фашистских полчищ.

...Десятки, а может быть, сотни раз проезжал я по улице Леонида Беды, что практически в центре Минска. Знал, что он был дважды удостоен звания Героя Советского Союза, что, будучи фронтовым летчиком, освобождал наш край, а в послевоенное время командовал 26-й воздушной армией Белорусского военного округа, избирался депутатом Верховного Совета республики. Но не знал я, что Леонид Игнатьевич Беда — выходец из Казахстана. Его подробная биография представлена в книге "Незабытые имена", изданной усилиями сотрудников Посольства Республики Казахстан в нашей стране.

Прочитав все страницы вышеназванной книги, я открыл для себя множество фамилий казахов, имеющих теперь прямое отношение к Беларуси.

Абдулла Жанзаков — Герой Советского Союза, родился в поселке Акраб Актюбинской области. 22 июня 1944 года ефрейтор Абдулла Жанзаков проявлял отвагу при освобождении Витебской области. *"При штурме высоты у деревни Сиротино, когда наступающим бойцам Красной Армии буквально было голову не поднять под огнем немецких пулеметов, автоматчик Жанзаков подполз к вражескому дзоту и, забросав его гранатами, уничтожил 12 фашистских солдат и офицеров. По сути, благодаря храбрым действиям Жанзакова была захвачена высота, а боец лично взял в плен одного из фашистов..."* Еще не раз казах Абдулла Жанзаков проявлял героизм на белорусской земле! Жаль, но при форсировании реки Ушачи был сражен вражеской пулей. Похоронен в деревне Засскорки Полоцкого района.

Сколько крови было пролито в боях за каждый метр белорусской земли! Подвиг Александра Матросова повторили Сундуткали Искалиев в сражении за безымянную высоту у деревни Лудчицы Быховского района и Агадил Сухамбаев в бою под Гродно. Герой Советского Союза Косан Мамутов в числе первых переправился через Днепр в феврале 1944 года и в боях за Рогачев уничтожил 32 гитлеровца. Он является почетным гражданином этого белорусского города.

Сейткасым Аширов...

Койгельды Аухадиев...

Изгутты Айтыков...

Садык Абдужаббаров...

Темирбек Ибрагимов...

Айткеш Ибраев...

Берген Исаханов...

Хаджимурат Сыздыков...

К сожалению, нет возможности перечислить всех героев войны, выходцев из далекого Казахстана, но проявивших мужество при освобождении Беларуси в 1943—1944 годах. Их подвиги нашли отражение на страницах книги, которая, повторяю, увидела свет благодаря Посольству Республики Казахстан в Беларуси.

Вот уж поистине ничто не забыто, никто не забыт.

Инициатором издания книги нужно сказать большое спасибо не только за большую текстовую работу, но и за те иллюстрационные материалы, которые попали на ее страницы. Вот на одной фотографии Чрезвычайный и Полномочный Посол Казахстана в Республике Беларусь Анатолий Владимирович Смирнов с ветераном Великой Отечественной войны Юрием Александровичем Булюбашем. Об этом герое Сталинградской битвы не раз рассказывала "Народная Воля". Он уроженец Казахстана, поднимал целину, внес немалый вклад в развитие экономики республики. Теперь он живет в Минске, ему всегда рады в казахском пасольстве.

Книга, изданная Посольством Республики Казахстан в Беларуси, — это, можно сказать, своеобразный пантеон героев — уроженцев этой близкой нам по духу и связям страны, память о которых будет вечно жить в благодарных сердцах белорусов.

**Семен ЛЕНКОВЕЦ.**




**...Они сражались за Родину.**



**Рядовой Нури Садыков.**



**Агадиловы — Жилбек, его жена Жамал и их дочь Майя в партизанском отряде. Белоруссия, 1943 г.**



**Ветеран Великой Отечественной войны, уроженец Казахстана Ю.Булюбаш и Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Казахстан в Республике Беларусь А.Смирнов на праздновании 9 Мая.** *(Недавно закончился срок его пребывания в нашей стране.)*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Уладзімір ВІЛЬЧЫНСКІ: «Гэта сорам, калі на 40-тысячны стадыён паглядзець футбол прыходзіць 500 чалавек»

*24 сакавіка стартуе чарговы чэмпіянат Беларусі па футболе. Чаму на матчы першынства прыходзіць па 500 чалавек? Што трэба, каб балельшчыкі пайшлі на стадыёны? Аб гэтым напярэдадні адкрыцця сезона карэспандэнт "Народнай Волі" гутарыць з дырэктарам мінскага стадыёна "Дынама"* ***Уладзімірам ВІЛЬЧЫНСКІМ.***

**— Уладзімір Васільевіч, якія асабіста ў вас чаканні ад новага чэмпіянату?**

— Перш за ўсё мае чаканні звязаны з тым, што ў гэтым годзе ўсё ж такі плануецца пачаць рэканструкцыю стадыёна "Дынама". Але ў суботу будзе адкрыццё сезона — матч, на які кожная каманда ўскладае нейкія свае чаканні. Мы, са свайго боку, таксама зрабілі ўсё магчымае, каб прывесці поле і стадыён у належны стан.

**— Футбалісты, трэнеры нярэдка крытычна ставіліся да якасці футбольнага газона галоўнай спартыўнай арэны краіны. Як толькі яго ні называлі: балота, танкадром...**

— А што вы хацелі, калі столькі гадоў не праводзілася рэканструкцыя! Неабходна сучасная дрэнажная сістэма, шмат што неабходна. Думаю, пасля рэканструкцыі стадыён будзе адпавядаць самым сучасным сусветным стандартам.

**— Калі плануецца рэканструкцыя?**

— На кастрычнік гэтага года, пасля таго як нацыянальная зборная згуляе з іспанцамі.

**— Якая сярэдняя наведвальнасць матчаў чэмпіянату Беларусі, якія праходзілі на "Дынама", была ў мінулым сезоне?**

— Катастрафічная! Гэта сорам, калі на 40-тысячны стадыён паглядзець футбол прыходзілі па 500—800 чалавек. Аншлагамі лічыліся гульні, якія наведвалі 2—2,5 тысячы.

**— На ваш погляд, што неабходна, каб народ ішоў на футбол, як у 1982 годзе, калі на трыбунах яблыку не было дзе ўпасці?**

— Уся справа ў гульнях, якія паказваюць нашы каманды, футбалісты. Скажыце, каму хочацца марнаваць свой час ды яшчэ плаціць за гэта грошы, каб паназіраць сумны матч, у якім за 90 хвілін можаце не ўбачыць ні імкнення да перамогі, ні эмоцый? Будуць на ўзроўні каманды — балельшчык абудзіцца. Паглядзіце, на матчы Лігі чэмпіёнаў з удзелам БАТЭ балельшчыкі актыўна раскуплялі білеты, ішлі на стадыён... Значыць, справа не ў аматарах футбола. Нават кошты на білеты іх не палохаюць. Галоўнае, каб было на што глядзець.

**— Можа, балельшчыкі ішлі паглядзець больш на "Мілан", "Барселону", чым на БАТЭ?**

— Дык а хто, скажыце, перашкаджае іншым беларускім клубам дайсці да той стадыі, калі яны будуць гуляць з той жа "Барселонай"? БАТЭ паказвае гульню, дзякуючы якой у Мінск прыязджаюць гранды сусветнага футбола, і балельшчыкі не застаюцца ўбаку.

**— Чым яшчэ можна прывабіць аматараў футбола на стадыён, акрамя гульні?**

— Па-рознаму, і, думаю, пасля рэканструкцыі на "Дынама" чалавек будзе прыходзіць не толькі паглядзець футбол, але і адпачыць. Гэта, безумоўна, неабходна.

**— Самі вы за якую беларускую каманду будзеце балець зараз?**

— Я заўсёды балею за прыгожы футбол. За той, які не сумна глядзець.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *У першым туры чэмпіянату Беларусі па футболе 24 сакавіка згуляюць "Славія" (Мазыр) — "Нёман" (Гродна), "Мінск" — БАТЭ (Барысаў), "Белшына" (Бабруйск) — "Брэст", "Нафтан" (Наваполацк) — "Шахцёр" (Салігорск). 25 сакавіка адбудзецца матч "Гомель" — "Дынама" (Мінск).*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Михаил ЗАХАРОВ: «Своих толковых хоккеистов у нас долго не будет...»

*Игроки и тренеры хоккейного минского "Динамо" в последний раз в этом сезоне встретились с болельщиками на "Минск-Арене". Так сказать, пообщаться на посошок. Между тем главный тренер минской "Юности" и экс-наставник сборной Беларуси Михаил ЗАХАРОВ дал свою оценку выступлению "Динамо" в этом сезоне, поведал, почему "Юность" пока не будет заявляться в КХЛ, а также может ли он стать новым главкомом "Зубров".*

— Я бы не сказал, что в этом сезоне "Динамо" сыграло слабо, — говорит Михаил Михайлович. — Все-таки в чемпионате команда выглядела достойно. Да, получилось так, что в матчах плей-офф минчане проиграли москвичам с общим счетом 0:4, но в любом случае я считаю главного тренера "Динамо" Марека Сикору высококлассным специалистом. Кроме того, надо учитывать, что у нас были травмированы многие ведущие игроки.

**— Можно ли в таких ситуациях говорить, что кто-то виноват больше: хоккеисты, тренер?..**

— Это уже кто-то придумал, что, мол, выигрывает команда — проигрывает тренер. В нормальных коллективах ответственность нужно делить вместе. И в радости, и в горести. Повторюсь, Сикора — тренер с большой буквы. И за команду лично мне не стыдно.

**— Может быть, у "Юности" в будущем тоже есть какие-то шансы попасть в КХЛ?**

— Мне это уже не интересно. Председатель федерации хоккея Евгений Ворсин сказал же на всю страну, что вторая белорусская команда в КХЛ не нужна. Ему виднее, наверное.

**— Есть и такое мнение, что расклад со второй командой все-таки пошел бы на пользу белорусскому хоккею...**

— Я тоже так считаю. Пускай в КХЛ выступает не обязательно "Юность" — для наших болельщиков это было бы намного интереснее. Вы посмотрите, как в КХЛ прибавили тот же Китаров, Степанов... Но есть группа товарищей, которые активно выступают против этой инициативы.

**— Может быть, из-за того, что на содержание еще одной команды в КХЛ потребуются немалые финансы?**

— Я не думаю, что там такие уж большие финансы. Тех денег, которые сегодня получает белорусский хоккей, хватило бы на две-три команды в КХЛ.

**— Не так давно дали белорусское гражданство трем канадским игрокам — Платту, Ланду и Линглету. Каково ваше отношение к натурализации канадцев?**

— Приняли и приняли — со мной никто не советуется. Пускай бы и словакам давали белорусское гражданство...

**— А может быть, лучше своих растить?**

— Своих толковых ребят у нас долго не будет — это я вам могу сказать прямым текстом. Вы же сами видите, что в этом плане у нас и близко ничего нет.

**— В "Прессболе" приводили данные, что годовая зарплата одного канадского игрока в "Динамо" составляет бюджет нескольких белорусских детско-юношеских хоккейных школ. Это нормально?**

— По указу главы государства все клубы должны следить за своими школами. Думаете, это все исполняется, кто-то следит за школами? Когда наш в прошлом известный хоккеист Олег Антоненко закончил выступать, в школе минского "Динамо" ему предложили зарплату всего в 500 тысяч рублей. Около 200 долларов. Это нормально? Пока не будет работать система " клуб и школа", ничего не будет. Вот и имеем то, что имеем. Посмотрите, сколько за последнее время белорусских тренеров уехало работать в Украину и Россию.

**— А вы поднимаете эти вопросы?**

— Есть федерация, ее это должно беспокоить в первую очередь.

**— Михаил Михайлович, Марек Сикора уходит из "Динамо". Если предложат этот пост вам, согласитесь?**

— Когда предложат, тогда и будем думать.

**— Но болельщики на форумах не исключают, что вы можете возглавить команду "Зубров".**

— Первый раз слышу. Вы мне вот сейчас как в лоб шарахнули...

**Алесь СИВЫЙ.**



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск,
вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл.
(017) 3286871.
Тэл./факс
рэкламнага
аддзела: (017)
3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік
і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч
СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.03.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28480 экз. Заказ №1236.